

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 30 (766) 26 ЛІПЕНЯ 2006 г.

## Пілігрымка у Будслаў



Ідуць і ідуць людзі ў Будслаў. У кожнага сюды свая дарога, свая пілігрымка. Гэты год не быў выключэннем. Тысячы пілігрымаў сабраліся ў Будславе 2-га ліпеня.

Вось і мы, пераначаваўшы ў гасціннай і роднай "Засьцянковай хатцы" 2 ліпеня 2006 г. на перапоўненай легкавушцы накіраваліся ў Будслаў, што знаходзіцца ад Вашунова за нейкія 20-25 км.

Мы – гэта я (Гіль Юры), Рышард Мацейкянец (гал. рэдактар газэты "Nasz czas"), ксёндз-уніят з Вільні Ян Даўкшыс ды яшчэ 3 чалавекі з Менска (Валеры і Галіна Кучынскія і Мікола Грынцэвіч).

Па шляху ў Будслаў наведалі Параф'янаўскі касцёл Панны Марыі, у якім у свой час хрысцілі братоў Дамейкаў (Казіміра і Ігната), пабылі на набажэнстве, якое, вёў на роднай мове ксёндз а. Марат Казлоўскі і зрабілі адпаведныя фотаздымкі. Затым заехалі ў Сітцы – радзіннае "гняздо" Дамейкаў. Агледзелі ў парку Дуб-велікан (узрост 490 г.), браму, калоны і г.д., рабілі здымкі.

... Нарэшце Будслаў – тут кожны год 2 ліпеня праходзіць адно з радасных свят – урачыстасць Маці Божай Будслаўскай, апякункі усёй Беларусі. Будславу – 500 год (2004 г.). уже 1 ліпеня ўвечары тут сабраліся святары і біскупы, сёстры-манахіні, тысячы пілігрымаў, якія сотні км. прайшлі да святыні пешшу, і вернікі, што прыехалі на аўто.

Унутры храма ў галоўным алтары ўвагу усіх прыцягвае вобраз той, на якую пілігрымы ўскладаюць свае надзеі – Цудадзейны вобраз Найсвяцейшай панны Марыі з дзіцяткам Езусам на руках, каранаваны у 1990 г. Папскімі каралямі.

...Спачатку гэтую мясцовасць, што над рэкамі Сэрвач, Турэк і Зуя (пушчу), якую згодна з прывілеем 1504 г. кароль Казімір Ягелончык падарыў у вечнае карыстанне айцам – Францысканцам, людзі называлі Будай. Тут людзі шчыра маліліся. Святая Багародзіца пачула шчырыя просьбы – малітвы сваіх дзяцей і адбыўся цуд. У 1588 г. яна з'явілася ім у пушчы і сказала: "Ад гэтага часу Бога нашага і сына майго слова і маё заступніцтва будзе вам дадзена назаўсёды. Гэтае месца я выбрала пастаянным прытулкам для грэшнікаў". Пасля такога цуда Буда стала слаўнай, тут быў пабудаваны новы касцёл.



*Будслаўскі касцёл 1-2 ліпеня 2006 г.*

І я прысвяціў свой вершык-малітву Маці Божай Будслаўскай:

*"Матачка Божая,*
*Маці Буцлаўская,*
*Ты людцам з'явілася тут.*
*Будзь апякункаю,*
*заступніцай нашаю,*
*Збаў нас ад цяжкіх пакут!*
*Авэ Марыя..."*

***Юры Гіль.***



*Наша група каля Дуба-велікана..*

## 95 гадоў з дня нараджэння Юзэфы Мацкевіч



Беларускі мовазнавец Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч нарадзілася 27 ліпеня 1911 г. у в. Ухлё Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Доктар філалагічных навук (1963). Член-карэспандэнт АН БССР (1969). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). У 1938 г. скончыла Менскі педагагічны інстытут. Працавала настаўніцай. З 1945 г. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР (у 1950—1986 гг. загадчыца сектара дыялекталогіі).

Ю. Ф. Мацкевіч аўтар больш за 80 навуковых прац у галіне дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы, сучаснай беларускай літаратурнай мовы, лексікаграфіі, тапанімікі. Яе кніга «Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове» (1959) — першая ў беларускім мовазнаўстве спроба манаграфічнага апісання сістэмы дзеяслова з усёй складанасцю яго катэгорый і форм на базе дыялектных даных беларускіх гаворак другой паловы 40-х — 50-х гг. і мовы мастацкай літаратуры канца 19 ст.— 1950-х гадоў. У рабоце даецца падрабязны аналіз спосабаў утварэння граматычных катэгорый і форм спражэння апісваецца марфалагічныя варыянты асабовых флексій у беларускі.х гаворках і іх адлюстраванне ў мове мастацкай літаратуры, аналізуюцца формы інфінітыва.

Ю. Ф. Мацкевіч рэдактар і сааўтар «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa» (т. 1—5, 1979—86). Слоўнік уключае каля 40 тысяч слоўнікавых артыкулаў. У ім упершыню прадстаўлена лексіка буйной тэрытарыяльнай адзінкі — дыялектнай зоны, вызначанай на падставе этналінгвістычных дадзеных. У слоўніку прыведзены паралелі з іншых славянскіх і неславянскіх моў, якія ўказваюць на шляхі пранікнення лексікі ў беларускія гаворкі.

Ю. Ф. Мацкевіч сааўтар кніг «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія» (1957), «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69), «Мікратапанімія Беларусі" (1974). Прымала ўдзел у стварэнні «Русско-белорусского словаря» (1953). За ўдзел у комплексе прац па беларускай лінгвагеаграфіі ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года.

## У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА ГРАФІКІ І СКУЛЬПТУРЫ ТАЦЦЯНЫ РАДЗІВІЛКІ І КАНСТАНЦІНА СЕЛІХАНАВА

У гарадской мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва 21 ліпеня адкрылася выстава графікі і скульптуры Таццяны Радзівілкі і Канстанціна Селіханава. Пра гэта паведаміла БелаПАН дырэктар галерэі Таццяна Бембель.

Серыя барэльефаў К.Селіханава прадстаўлена на выставе ў акружэнні графічных лістоў — як яго ўласных, так і аўтарства яго калегі і жонкі Т.Радзівілкі.

На думку дырэктара галерэі, у пошуках уласнай мастацкай мовы абодва мастакі аддалі даніну прыёмам абстрактнага імпрэсіянізму, а таксама кубістычнай стылізацыі з яе імкненнем да спрашчэння і абстрагавання. За ўсім гэтым, аднак, праглядаецца акадэмічная сістэма навучання з яе высокай культурай фігуратыўнай пластыкі.

"Гледзячы на абстрактныя кампазіцыі Канстанціна Селіханова, глядач пранікаецца іх крыху трывожным настроем. Унутраная напружанасць складана сплеценай формы стварае драматычны эфект, натхнёны мастацтвам усходняй каліграфіі", — сказала Т.Бембель. На яе думку, кантрастам да стрымана-лаканічных лістоў К.Селіханава выступаюць работы Т.Радзівілкі з іх багатай вібруючай каляровай і фактурнай нюансіроўкай, а таксама дэталізаванай, поўнай падрабязнасцей кампазіцыяй.

Выстава будзе працаваць да 20 жніўня.

***Таццяна ДАРАШЧОНАК, БелаПАН.***





# Да 15-годдзя ТБМ Віленскага краю



Мерапрыемства ў Вашунове, прысв. 15-годдзю ТБМ Віленскага краю праведзена паспяхова. Удзельнічала – 50 чал. з засценка. Прыехалі госці з Вільні, Віцебска, Менска і навакolля. Сярод іх быў рэдактар польскай газеты "Nasz czas" Рышард Мацейкянец (Вільня); кс.-уніят а. Ян Даўкшыс (Вільня) дацэнт з менскага педуніверсітэта Валеры Кучынскі.





Для асвячэння Фігуры Маці Божай Засцянковай і правядзення Крыжовага шляху віцебскі біскуп Ул. Блін накіраваў айца Пятрайціса, які з а. Я. Даўкшысам асвецілі 2 крыжы і Фігуру Маці Божай.

Мясцовыя ўлады не ўмешваліся ў нашу справу, але забаранілі неафіцыйна ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве мясцоваму інстр. ансамблю "Парафіянава".

У заканчэнне мерапрыемства быў праведзены супольны абед. Гэта ўсё адбылося 1 ліпеня 2006 г. у Вашунове, а назаўтра 2 ліпеня зрабілі паломніцтва ў Будслаў, а на шляху туда заехалі ў Параф'янава (касцёл) і Сітцы – радзіннае "гняздо" Дамейкаў.

*Гіль Юры, старшыня ТБМ Віленскага краю.*



*Гіль Алесь з жонкай Людай прыехалі з Віцебска на святкаванне 15-годдзя ТБМ Віленскага краю*

## *Малітва Да Маці Божай Засьцянковай Вашуноўскай*

Матачка Божая, Маці Засьценка,
Я голасна клічу Цябе,
Будзь з намі, заўсёды будзь з намі,
Я голасна клічу Цябе,
Сэрцы сваe аддаем мы Табе.

Авэ Марыя, Авэ Марыя...

Матачка Божая, Хросная Маці,
Глянь на нас, грэшных, з гары
Вылечы раны на сэрцы
І ласкаю нас адары.

Авэ Марыя, Авэ Марыя...

Матачка Божая, Маці Сьвятая,
Чыстымі думкамі нас запалі.
Сьветлыя сьлёзы свайго спачуваньня
На нашыя душы пралі.

Авэ Марыя, Авэ Марыя.

Матачка Божая, Маці Засьценка,
Нашым людзём памажы.
Збаў ад нячыстага, збаў ад лукавага,
Ад злых нягод беражы.

Авэ Марыя, Авэ Марыя...

Матачка Божая, Маці Нябесная,
Дай вольнасьці нашай зямлі,
Каб верай і праўдай Табе мы служылі,
Каб шлях свой да Бога знайшлі.

Авэ Марыя, Авэ Марыя...
Матачка Божая, Маці Засьценка,
У псальмах і пацерах славім Цябе.
Вечная памяць і вечная слава

Авэ Марыя, Табе. Амэн!

*Слуцкія зачосы*

# Аргументы дырэктара не пераканаўчыя

У пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі Беларусь займела незалежнасць і вызначыліся кірункі нацыянальнага Адраджэння, мясцовая суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны дамаглася ад адміністрацыі адзінага ў горадзе кінатэатра па вуліцы Леніна, каб на абодвух рэкламных шчытах назвы фільмаў значыліся на дзвюх мовах – зверху на беларускай ніжэй – на рускай, таму што дагэтуль яны былі ўсе гады рускамоўнымі. Жыхары горада аднесліся да такой абновы без эмоцый. Хутчэй абыякава, хіба што ухвалілі прыхільнікі дэмакратычных суполак. Аднак, як кажуць, нядоўга музыка іграла. Пасля рэферэндуму 1995 года рэклама зноў стала рускамоўнай. І па сённяшні дзень. Цяпер на будынку звонку і ў сярэдзіне ніводнага роднага слова, калі не лічыць назвы кінатэатра "Беларусь".

Неяк выпадкова сустрэўся ў студыі раённага радыёвяшчання з дырэктарам мясцовага філіялу "Кінавідэапракату" Анатолем Барысавічам Паповым – ён якраз перад уключаным для запісу мікрафонам зачытваў доўгі спіс з назвамі амерыканскіх і расейскіх кінафільмаў, якія павінны былі дэманстравацца ў бліжэйшыя два тыдні.

Вядома, свой рэй вёў па-руску. Калі скончыў, я прапанаваў яму ад імя мясцовай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны выпісваць назвы фільмаў на дзвюх мовах, каб прыезджыя з Украіны ці Расеі госці не здзіўляліся такому недарэчнаму для старажытнага беларускага горада аднамоўю ў рэкламе. Ён рашуча запярэчыў:

- А знаете, что когда реклама велась на двух языках, то посещаемость зрителей сократилась вдвое? Вот так.

- Нізашто не паверу, - адказаў я. – Наадварот, шчырыя беларусы, а такія ёсць у горадзе і іх нямала, радаваліся.

А скарацўся прыток гледачоў у кінатэатр па адной прычыне: ён, глядач, неўзлюбіў засілле на экране спрэс амерыканскіх, далёка не высокамастацкіх баевікоў і фільмаў – жахаў, ды і расейскія часта такія ж трапляюць на экран. Тым болей, што іх можна бясплатна паглядзець у сябе дома на экране тэлевізара па трынаццаці каналах.

Анатоль Барысавіч тым не менш даў мне зразумець, што мяняць нічога у рэкламе не стане. На тым і разыйшлся.

# Лозунгі на выяве дзяржаўнага сцяга

Дзівосы ды і годзе: над аркай, пры ўваходзе на гарадскі рынак з боку самай людной вуліцы Уласаўца, на металёвым, уздоўж перакладзіны аркі, шчыце з вывявай чывона-зялёнага сцяга буйнымі літарамі выпісаны лозунг: "Мы – за моцную дзяржаву". А хто супраць? Адміністрацыя рынка, індывідуальныя прадпрымальнікі, намёты якіх пачынаюцца за аркай, вядома ж не супраць, як і наведвальнікі яго.

А вось на фасадзе універмага № 21 з "выхадам" на галоўную вуліцу горада імя Леніна лозунг "Нам жыць у квітнеючай Беларусі" выпісаны аршыннымі літарамі на дзевяцімятровай даўжыні шчыце з выявай таго самага дзяржаўнага сцяга.

За паўкіламетра адсюль на тарцавым баку 9-павярховага жылога дома па вуліцы 14-ці партызан – маляўнічае, плошчай не меней 50 квадратных метраў, пано з такім жа лозунгам "Моладзь – за квітнеючую Беларусь". Толькі чамусьці ніхто з заказчыкаў такой нагляднай агітацыі не здагадаўся (ці збаяўся?) уключыць у тэксты самае патрэбнае сёння народу слова – "Незалежнасць". Калі краіна захавае яе, то будзе і квітнеючай, і дэмакратычнай.

# "Ой, белы конь..." лунала над рынкам

Праз какафонію расейскай папсы з дынамікаў на шапіках, што гандлююць дыскамі на гарадскім рынку і дзе пачуць беларускую песню – незбыўная мара, скрозь людскі розгалас – шум натоўпу пакупнікоў і гандляроў, што тоўпяцца зранку пад добрай сотняй намётаў і капітальных, са шклянымі дахамі, павільёнаў, нечакана "прарэзвалася" так любы майму вуху і сэрцу напеў гармоніка. А пад яго- наша народная песня "Ой, белы конь бяжыць". Кіруюся ў тым напрамку, на самы край рыначнай плошчы, дзе месцяцца індывідуальныя гандляры рознай металёвай драбязой. І бачу паблізу іх немаладога мужчыну з гармонікам на невялікім услончыку, а вакол яго чалавек пяць сівавалосых, але, бачна, бадзёрых мужчын, якія ўжо падхапілі новую песню – "Цячэ вада ў яры". Пяюць з поўнай выкладкай голасу і душы, хоць усе цвярозыя. Знаёмлюся з гарманістам – Іван Гаўрылавіч Бузун. Гараджанін, шафёр па прафесіі, пенсіянер. Гармонік узяў на базар на "пракат" у суседа, Віктара Цімафеевіча Зяневіча, які стаіць побач і падпявае яму за кампанію.

Праходжыя, пераважна людзі пажылыя, прыпыняюць крок, услухваюцца ў забытыя мелодыі, усміхаюцца і крочаць далей. Маладых – ніводнага. Віктар Цімафеевіч паведаў, што дома у яго ёсць і баян, але ахвотнікаў паіграць на ім, акрамя Бузуна, не знайшоў на сваёй вуліцы.

Мо з гадзіну працягвалася выступленне гэтых рыначных "Песняроў". І хоць яны не заглушылі дынамікі на шапіках па продажу дыскаў, затое адарылі радасцю многіх ветэранаў, асабліва тых, хто не забыў родную мову, нашы мілагучныя народныя песьні. І я вяртаўся з рынку з узнятым настроем і прасветленай душой.

*Мікола Кутнявецкі, г. Слуцк.*





*Уладзімір Караткевіч*

# РОДНАЯ МОВА

Дзве старонкі, дваццаць ці дзвесце... А можа, тысячы тысяч?..

Усё адно, нават іх будзе мала, каб годна ўславіць цябе, родная беларуская мова. Таму што мільёны тваіх людзей самім існаваннем сваім з самага пачатку дзён кожным трапным словам, кожнай любоўнай ці гнеўнай думкай, кожным знішчальным, здзеклівым, іранічным або, наадварот, добрым, лірычным сказам славяць цябе. І славіць будуць, пакуль не скончыцца жыццё людское і думка людская на Зямлі.

Мова Скарыны і Буднага, мова Багдановіча і Купалы, Багушэвіча і Коласа, мова соцень геніяў, што яшчэ прыйдуць. Мова інтэлігентаў беларускіх, імя якім — легіён. Мова настаўнікаў і паэтаў, вучоных і кампазітараў, але перш за ўсё мова дзесяці мільёнаў людзей па ўсім свеце — ад Уругвая да Далёкага Усходу і, галоўнае, на нашай беларускай зямлі.

Мова першай матчынай калыханкі і апошняга «бывай», мова старадаўніх архіваў і новых школ на Палессі, мова пажаўцелых статутаў і мова кахання. Мова плытагонаў, сялян, акадэмікаў і шахцёраў на саляных капальнях. Мова, якая можа ўсё; можа сказаць словы нявыказанай пяшчоты і можа ўдарыць так, што не ўстанеш. Гнуткі, пявучы, адвечна новы інструмент, без якога нельга ўявіць сабе сваё жыццё, як без хлеба, без якога радасць не ў радасць, каханне не ў каханне, бяседа не ў бяседу, сяброўства не ў сяброўства і нянавісць не ў нянавісць.

Няма цябе — і вось няма суцяшэння ў горы. Няма цябе — і вось нямы язык, і нельга сказаць слоў радасці. А калі ўбіць сабе у галаву цалкам дурную думку, што ў нейкім далёкім будучым цябе не будзе, то... нашто нам тады такая будучыня?

Таму што ўсе мы — ад настаўніка да паэта — любім цябе, таму што ты — самы важлівы наш здабытак, і мы ў меру сіл нашых не дазваляем і не будзем дазваляць, каб нехта выказваў да цябе пагарду.

Тым больш дзіка, што яшчэ нядаўна зламысныя ёлупы прарочылі табе знікненне. Мала таго, самі дбалі абім са стараннем, вартым лепшага ўжывання. Што ж, Іваны Бязродныя вартыя толькі пагарды, як усе тыя, якія, адвярнуўшыся, праходзяць ля матчынай хаты. Яны проста не ведаюць, які ўдзел рыхтуе лёс таму чалавеку, які пазбавіўся мовы. А каб ведалі, то жахнуліся б. Толькі ж нават гэтага не дадзена іхнім бедным мазгам.

...Старая хроніка данесла да нас жудасную і горкую гісторыю. Тэўтоны захапілі землі прусаў, і старая пруская мова паступова знікла. І вось на турнір мейстэрзінгераў прыйшоў апошні прускі спявак і паэт — вайдэлот. Ён спяваў дзівосныя песні пра подзвігі продкаў, пра каханне і смеласць, пра вернасць і дружбу. Ён апяваў прыгажосць сваёй зямлі, але ніхто яго не разумеў. Яму не далі скончыць, бо рыцары рагаталі, як ашалелыя. І паднеслі старому вайдэлоту прыз... сто гарэхаў свістуноў.

Глыбокі сэнс гэтай гісторыі ясны як божы дзень: нямы той чалавек, які забыў мову продкаў, і не можа ён спаўна выліць сваю душу, вывявіць сябе. Па пальцах можна пералічыць выпадкі, калі, напрыклад, пісьменнік стварае на чужой мове нешта нават не геніяльнае, а проста вартае друкавання, а не сметніка (скажам, паляк Кажанеўскі стаў англійскім пісьменнікам Джозефам Конрадам). Але нават геніяльны Пушкін, дасканала ведаючы французскую, пісаў на ёй дужа пасрэдныя вершы. Тое самае можна сказаць пра польскія вершы Лучыны і рускія — Багдановіча. А яны ж таксама большую частку жыцця чулі рускую і польскую.

Нібы нейкі лёс неўблажымы кіруе рукою таго, хто піша. Нібы цень маці, прамаці і ўсіх продкаў, што прайшлі па зямлі з дня з'яўлення на ёй людзей і народаў. І калі пачынаеш пісаць не так, як думалі і гаварылі яны, — немінуча пачынаеш фальшывіць.

У старадаўнія часы, калі яшчэ не склаліся нацыі, мова магла зрабіцца мёртвай мовай, як латынь. Але і тады мовы былі практычна неўміручыя. Тая ж самая латынь не толькі нарадзіла ўсю сям'ю раманскіх моў — ад Аргенціны да Румыніі, — не толькі, будучы ўжо мёртвай, цэлымі стагоддзямі была мовай паэзіі і навукі, але і зараз уплывае на нас творамі Катула і Вергілія, Гарацыя і Авідзія, прымушаючы нас смяяцца і плакаць. Што ўжо хадзіць далёка па прыклад: новая беларуская літаратура пачыналася з перазробкі Вергіліевай «Энеіды», і той жа самы Вергілій вадзіў па пекле заснавальніка новай італьянскай паэзіі, першага паэта новага часу Дантэ.

У новы час скон немагчымы для кожнай большменш развітай мовы. Нават неразвітая ўладна ўплывае на сваіх сыноў. Ян Баршчэўскі ў мінулым стагоддзі напісаў па-польску «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», але і зараз мала хто з такой выразнасцю паказаў быт беларуса, псіхічны склад ягонай душы, яго нацыянальны характар і самую Беларусь. Міцкевіч пішa па-польску, але рэаліі яго твораў цалкам беларускія, але і старэйшыя і навейшыя яго даследчыкі лічаць, што сам склад яго мыслення быў беларускі, але творы ягоныя страката перасыпаны вялікім мноствам беларускіх слоў і тых беларуска-польскіх барбарызмаў, што былі ўласцівы шляхце беларускага паходжання. Нездарма ж у паэта Канстанты Галчыньскага ёсць верш, герой якога, чытаючы Міцкевіча, нападае на слова «свежоп», перагортвае ўсе, якія ёсць слоўнікі польскай мовы, нс знаходзіць такога і, не смеючы не верыць Міцкевічу, з'язджае з розуму.

*Ужо шэпчуць вакол:*
*Што гэта*
*зрабілася з хлопцам!*
*Дзякую, пане Адам!!!*
*Я ахвяра свежопа.*
*(Пераклад. — У. К.)*

А на самай справе Міцкевіч проста «паляні-заваў» звычайную беларускую «свірэпку», або «свірэп».

Не толькі беларусізмы былі ў яго творчасці. Чытаючы ў Парыжы лекцыі аб славянах, ён сказаў пра беларускую мову, што гэта найбагацейшая і найчысцейшая з усходнеславянскіх моў, адзначаная ўзнёслай прастатой.

Мова неўміручая. Волею абставін ірландцы, напрыклад, амаль страцілі яе. Свіфт, і Уайльд, і Шоў, і дзесяткі іншых людзей, што з'яўляюцца гонарам англійскай літаратуры, былі ірландцы, любілі свой народ, але пісалі волею няшчасных абставін па-англійску. І вось цяпер ірландская, як і валійская, баскская, ідыш, як мовы народаў Афрыкі, якія сотні год ляжалі ў занядпадзе, усталі. Бо мова — душа народа, і толькі на ёй можа народ найбольш поўна выказаць сябе.

Наш лёс таксама быў такі. З часоў росквіту старажытнай беларускай мовы прайшлі стагоддзі вынародавання, забыцця, свядомага забойства. Акрамя гушчы народнай толькі ў нешматлікіх прыватных школах з закуранымі бэлькамі, у школах, дзе настаўнічалі адстаўныя салдаты ці старыя дзячкі і дзе вучылі акрамя псалціры хіба начаткам пісьма і лічэння, гучала яшчэ беларуская мова. Але было гэта ад беднасці, а не ад багацця.

Кнігашошы насілі кнігі з-за мяжы. І за гэтыя беларускія **кнігі** ім часта плацілі кулямі салдаты з кардонаў. Але ніхто ўсё адно не мог адштурхнуць народ ад сваёй кнігі.

Кнігі палілі, супраць іх выдавалі ўказы, забараняли самыя словы «беларуская мова». Але ўсё гэта, як і насмяханне над «паўночназаходнім нарэччам» — нічога не дало і немагло даць пакуль беларуская баба стаяла з рагачом ля печкі, пакуль гэта баба спявала калыханку над ліповай калыскай.

Мала таго, усе разумелі ўсё з большай яснасцю, што без яе, без гэтай мовы, немагчыма. Яна ўладна грукала ў светавыя дзверы.

Нават панам і гандлярам яна неабходная.

«Моцныя свету гэтага, — без яе вы падсячэце ногі эканоміцы і развалiце гаспадарку, бо не на французскай жа вам размаўляць з тымі, хто працуе, і без каго вы здохлі б з голаду!»

Але, не кажучы ўжо аб гэтай публіцы, яна неабходная і сапраўдным.

«Фальклярысты — вы збядніце чалавецтва на адзін з самых« багатых фальклораў на зямлі». І вось забароненая мова, амаль разбураная у сваёй літаратурнай, друкаванай галіне, рассыпаецца самацветамі ў запісах Шэйна, Раманава, Федароўскага і многіх дзесяткаў іншых.

Лінгвісты таксама пачынаюць разумець, што беларуская мова — гэта скарб таго, што вымерла ў другіх мовах, што, акрамя самастойнай вялікай каштоўнасці, яна—запаведнік, у якім «сохранилось очень много древнего и важного для истории»' (Н. И. Срезневский) і без ведания якога немагчыма славянскае мовазнаўства наогул, немагчыма вывучэнне і зразуменне іншых славянскіх моў і іхняй гісторыі.

Рэлікт? Так, калі хочаце, рэлікт, які перажыў стагоддзі. Але рэлікт, што расце, развіваецца, дыхае, ідзе наперад волатавымі крокамі, які жыве і будзе жыць вечна.

Усе пачынаюць больш і больш разумець гэта. Сама гісторыя ўладна і неабходна штурхае на прызнанне, на павагу, на захапленне багаццем і прыгажосцю беларускай мовы. І нават тыя, што адышлі ад яе — я разумею найлепшых з іх, — рана ці позна вяртаюцца да звонкага *дзе* і густога *чаго.* Бо толькі так ім можна сказаць усё.

Чачот запісвае народныя песні і сам складае вершы па ўзору гэтых песень. Марцінкевіч ад польскага верша прыходзіць спачатку да беларускіх, не вельмі яшчэ спрытных вершаў, а пасля стварае шэдэўр менавіта беларускай па мове і антуражу драматургіі — «Пінскую шляхту».

Усё, здавалася б, занядбана, але невядомы піша «Тараса на Парнасе», і яго ведае на памяць бадай што кожны беларус. І вось і Багушэвіч, якому й Бог загадаў, здавалася б, па выхаванні і становішчы, забыць усё — выбухае палымянымі радкамі ў абарону ўсяго гэтага, забытага, стаптанага царамі і саноўнай сволаччу. І грыміць супраць ворагаў мовы і народа голас Каліноўскага. І ўжо ў слоўнік Насовіча ўваходзіць больш за трыццаць тысяч адметных, паўнакроўных, жывых, іскрамётных слоў. І ўжо геній Купалы і Багдановіча ўстае над зямлёй, і займаецца над ёю далёкі яшчэ пакуль водсвет заранкі.

Першыя настаўнікі выходзяць на новую ніву. І гэта іхняй неўміручай працы, іхняму дбанню, іхнім бяссонным начам у многім і многім павінны мы быць удзячнымі за тое, што мова наша стала яваю для мільёнаў, што яна мае права патрабаваць такой жа самай павагі, як і ўсе мовы зямлі. Мы (я кажу «мы», бо я таксама быці настаўнік) ніколі не павінны забываць, наколькі годная наша праца, і хто стаяў ля яе івытокаў. А стаялі ля гэтых вытокаў, самі настаўнічалі, самі складалі першыя буквары і чытанкі Цётка, Купала і Колас. І, мяркуючы па ўсім, някепска ведалі сваю справу і зусім нядрэнна правялі яе ў жыццё. Яшчэ на зары нашага стагоддзя.

Дбаннем іх і соцень іншых мова набірае сілу, цвёрдая, як сталь, грубая, як сялянскія далоні, і пяшчотная, як спеў беларускага гівала. Яшчэ часам запінаючыся на абстрактных тэрмінах, яшчэ нясмела вымаўляючы навуковыя і філасофскія тэрміны — яна ўладна бярэ разбег. Яе ўжо не стрымаць. Першая сучасная трагедыя (я не маю на ўвазе сярэдневяковых містэрый і апавесцяў), першы раман, першая паэма — і паўсюль глыбокая зямляная праўда і дыяменты дажджу на пахучых майскіх галінах, і што ні слова, то жэмчуг падае на срэбны шчыт. І як бы часам ні было цяжка — з ёй ужо нічога не могуць зрабіць, як бы ні душылі — яна ўстае. І з атмасферы семінарыі з яе мёртвай царкоўнаславянскай выходзіць Якуб Колас, а са сцен школы, дзе вучаць «хто ты естэсь?» — адзін з найлепшых сучасных празаікаў Янка Брыль. Беззямельныя перасяленцы цягнуцца на Далёкі Усход — і праз семдзесят год я чую ў беларускіх вёсках на Усуры і Суйфуне яе, маю мову, нечапаную, родную, адвечна сваю. Прыходзяць і адыходзяць акупанты, усе гэтыя пілсудчыкі і эсэсманы, і след іхні знікае на твары зямным — а яна стаіць, бо карані яе ў глыбінях, дзе спяць тыя, хто стагоддзямі песціў, шліфаваў, бярог яе, лаканічную, гнуткую і цвёрдую адначасова, пявучую, тую, што з найлепшай яснасцю і дакладнасцю перадае думку чалавека, які жыве між Гродняй і Оршай, між Асвеяй і Лельчыцамі. Думку тых, якія казалі: «Хай не будзе ў таго свята, хто на досвітку табе здрадзе».

Яна вечная, бо ўся яна як наш характар. Здаецца, кволая ад пяшчотнай мяккасці, яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх жалезную мужнасць і сілу. І, як быццам дамогшыся свайго, б'е, як перапёлкаў жытах — мякка, а за тры вярсты чуваць. «Эль» — як салодкае віно, «дзе» — як шкляной палачкай па крышталі, мяккае «с», як соннае цiўканне сінічкі ў гняздзе. І побач «р», як гарошына ў свістку, і доўга, спявуча, адкрыта гучаць галосныя. А «г» прыдыхае так ласкава, як маці на лобік дзіцяці, каб перастаў сніць дрэнны сон.

Дык што ж лепей за цябе, мова мая, мова наша?! За цябе, даўняя, за цябе, вечна жывая, за цябе, неўміручая?!

І ў тым, што жывая ты, што неўміручая ты, павінны ўсе мы. Сялянка, што спявае, варушачы сена, — і чалавек, які складае слоўнік, дзеці, што гуляюць у «піва», — і дзяды, што баюць аб даўнім, паэты і вучоныя. Але яшчэ — і гэта ледзь не самае важнае — у тым, што ты неўміручая — шмат паслугі першай настаўніцы школьнай і выкладача літаратуры ў выпускным класе.

Іхняму таленту, няўрымслівасці, працавітасці і любові мы павінны дзякаваць за тое, што ты моцна, уладна і назаўсёды пасяляешся ў душах дзяцей, якія потым стануць дарослымі і самі будуць мець дзяцей і ўнукаў. А ў гэтых дзяцей і ўнукаў таксама будуць настаўнікі — праваднікі вялікіх ідэй чалавецтва ў дзіцячыя душы.

Праваднікі вялікіх ідэй на вялікай роднай мове, і таму самі вялікія людзі.

# Асвятленне на найвышэйшым узроўні

## *Люстру для галоўнай залы Нацыянальнай бібліятэкі рабілі ў Лідзе*

Пісьменная арганізацыя сістэмы асвятлення інтэр'еру - мабыць, адна з найважнейшых і адначасова самых складаных задач, якія стаяць перад любым архітэктарам. Акрамя свайго ўтылітарнага прызначэння, святло з'яўляецца прыладай, якая дапамагае арганізоўваць унутраны абшар, выяўляць архітэктурныя аб'ёмы памяшкання. Акрамя таго, яно служыць магутным сродкам эмацыйнага ўздзеяння, здольным ствараць жаданую атмасферу ў рукатворным абшары вакол нас і кіраваць самымі тонкімі адценнямі настрою чалавека.

Светлавая арганізацыя інтэр'еру шмат у чым падобна мастацтву - з гэтым сцвярджэннем цяжка не пагадзіцца. Тое ж самае можна сказаць і аб стварэнні найважнага складніка любой сістэмы асвятлення - святлотэхнічных прыбораў і кампазіцый, асабліва для грамадскіх памяшканняў, якія значна часцей, чым жылыя інтэр'еры, патрабуюць індывідуальнага падыходу і эксклюзіўных рашэнняў, якія ўлічваюць усе нюансы пэўнага аб'екта - пачынаючы планіроўкай і заканчваючы расстаноўкай мэблі.

Ці варта дзівіцца, што пры той адказнай ролі, якую выконваюць у інтэр'еры буйнагабарытныя святлотэхнічныя вырабы, архітэктары вельмі ўважлівa, калі не сказаць прыдзірліва, падыходзяць да выбару іх вытворцы - бо ад гэтага шмат у чым залежыць, наколькі паспяхова будуць рэалізаваныя іх уласныя задумы. Пры гэтым, аднак, яны часцяком арыентуюцца на дасягненні замежных кампаній і недаацэньваюць - або ж проста не да канца ўяўляюць сабе - магчымасці, наяўныя ў беларускіх прадпрыемствах.

З іншага боку, такое становішча рэчаў мае цалкам вытлумачальныя прычыны: справа ў тым, што ў Беларусі вытворчасцю эксклюзіўнай святлатэхнікі - і ў першую чаргу буйнагабарытнай - займаюцца літаральна адзінкавыя кампаніі. Бо дасягнуць дасканаласці ў малых формах куды прасцей, чым ствараць гэтак ж гарманічны, лёгкі і вытанчаны выраб значна большых памераў. Сапраўды, люстра дыяметрам, скажам, 5 м - усяго толькі абстрактная лічба, пакуль не ўявіш, што яе памер практычна роўны вышыні двух паверхаў... Тым не менш, увасабленне ў жыццё такога роду праектаў ужо даўно стала звыклай справай для адмыслоўцаў ЗАТ "Каскад" з г. Ліды.



Унікальныя дызайнерскія рашэнні, высокая якасць выканання, выкарыстанне перадавых тэхналогій і матэрыялаў ад вядомых сусветных вытворцаў - вось, мабыць, найболей характэрныя рысы святлотэхнічных вырабаў гэтага прадпрыемства. Аднак галоўным яго здабыткам, безумоўна, з'яўляецца каманда адмыслоўцаў, умелых прымаць пісьменныя прафесійныя рашэнні, да якой б сферы яны ні адносіліся, - пачынаючы з меркаванняў чыста эстэтычнага парадку і заканчваючы патрабаваннямі тэхнагляду або захавання санітарных норм асветленасці. Гэта дзякуючы іх доследу і ведам Закрытае акцыянернае таварыства "Каскад" за гады працы стала адным з лідэраў беларускіх распрацоўнікаў і вытворцаў эксклюзіўнай святлатэхнікі. Пачынаючы з 1994 года, у "паслужным спісе" прадпрыемства значыцца ўжо больш 300 буйных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі, Расіі, краін СНД і далёкага замежжа. Сярод іх - Палац Рэспублікі; Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, адміністрацыйныя будынкі Віцебскага, Менскага, і Брэсцкага аблвыканкамаў; Тэатр драмы і музыкі ў Брэсце; Віцебская абласная філармонія; спецыялізаваная музычная школа пры Маскоўскай кансерваторыі; аб'екты соцкультбыта цюменскіх нафтавікоў, такія помнікі архітэктуры, як Драматычны тэатр у Магілёве і гарадская ратуша ў Нясвіжы, будынак Пенсійнага фонду г. Масквы. Сёння ЗАТ "Каскад" прымае ўдзел і ў аднаўленні родавага замка князёў Радзівілаў, дзе адмыслоўцы прадпрыемства спрабуюць узнавіць святлатэхніку XVI-XVIII стст. з улікам усіх характэрных для таго часу асаблівасцяў.

Кожная з гэтых свяцілень непаўторная і арыгінальная, і ў кожнай - свая ўласная гісторыя. І усё ж пасапраўднаму ўнікальнымі іх робіць нешта іншае: у любым з іх жыве часцінка душы яго стваральнікаў, якая і ператварае іх у паўнавартасныя мастацкія вырабы, чыя эстэтычная каштоўнасць з гадамі толькі павялічваецца.

Адной з апошніх работ, выкананых камандай прадпрыемства, стала люстра ў Авальнай зале самітаў новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэтая задача аказалася няпростай як у тэхнічным плане, так і з пункта погляду дызайну. Першым чынам, у зале самітаў неабходна было забяспечыць асвятленне, досыць магутнае для правядзення якаснай тэлевізійнай здымкі і ў той жа час камфортнае для чалавечага вока. З іншага боку, незвычайнае архітэктурнае рашэнне залы - святлопразрысты купал замест традыцыйнай столі - патрабавала не меней арыгінальных ідэй і ад стваральнікаў святлотэхнічнай кампазіцыі.

Адмыслоўцы ЗАТ "Каскад" прапанавалі (і пасля рэалізавалі) элегантны праект, у якім не трацяць сваёй актуальнасці класічныя матывы, яны спалучаюцца з найноўшымі дасягненнямі ў вобласці святлатэхнікі. Створаная імі люстра ўяўляе сабой вытанчаную канструкцыю ў выглядзе нешырокага тора, які складаецца з мноства крыштальных падвесак, за якімі хаваюцца крыніцы святла, і цэнтральнага модуля - двух крыштальных паўсфер з торам, што атачае іх у ніжняй частцы і рознымі па велічыні крыштальнымі цыліндрамі, размешчанымі ў вертыкальнай плоскасці. У агульнай складанасці ў гэтай люстры налічваецца каля 400 светлавых прыбораў. Самае дзіўнае, што пры сваіх немалых габарытах яна здаецца практычна бязважкай, запаўняе аб'ём, але не загрувашчвае яго, зліваючыся ў непарыўнае цэлае з гэтым адкрытым, напоўненым паветрам і святлом памяшканнем.

У якасці "завяршальных рысак" светлавога афармлення залы выступаюць выкананыя ў тым жа стылі крыштальныя насценныя свяцільні.

Стварэнне такога роду святлотэхнічных кампазіцый - складаны і дынамічны працэс, падчас якога прыходзіцца адначасова вырашаць масу задач самага рознага характару, прычым нярэдка ў сціснутыя тэрміны (працы над люстрай для залы самітаў Нацыянальнай бібліятэкі - яркае таму пацверджанне). У некаторых выпадках першапачатковаму праекту можа запатрабавацца сур'ёзная перапрацоўка. Таму, як для заказчыка, так і для выканаўца найболей зручным аказваецца варыянт, калі ўсе этапы вытворчасці сканцэнтраваныя ў рамках аднаго прадпрыемствы. Менавіта такім чынам наладжана дзейнасць ЗАТ "Каскад".

Першы крок, з якога пачынаецца стварэнне любой свяцільні на гэтым прадпрыемстве, - складанне тэхнічнага задання, якое распрацоўваецца ў цесным супрацоўніцтве адмыслоўцаў аддзела святлотэхнічнага дызайну з праектнай арганізацыяй. У гэтым дакуменце аналізуюцца выхадныя патрабаванні заказчыка, архітэктурныя асаблівасці будынка, агаворваюцца ўсе найважныя тэхнічныя характарыстыкі, неабходныя для распрацоўкі праекту (патрабаваны ўзровень асветленасці, тып, колькасць і намінальная магутнасць крыніц святла, групы ўключэння, механізмы ўздыму і апусканні, арыентыровачныя габарыты і асноўныя канструктыўныя асаблівасці свяцільні), а таксама паказваюцца стадыі яго вырабу і арыентыровачныя тэрміны выканання кожнага з этапаў вытворчасці. Услед за тэхнічным заданнем прыходзіць чаргу распрацоўкі фор-эскіза (мастацка-канструктарскай прапановы), дзе прапаноўваюцца варыянты рашэння будучай свяцільні і яе асобных частак. Эскізны праект ствараецца звычайна на працягу аднаго-двух тыдняў. Калі ў гэтым узнікае неабходнасць, дадаткова вырабляюцца і выпрабоўваюцца макетныя ўзоры. Як толькі праект зацверджаны, можна прыступаць да вырабу люстры.

Увесь апісаны вышэй працэс уяўляе сабой бесперапынны ланцужок, усе "звёны" якога - дызайнеры, на чыіх плячах ляжыць стварэнне выгляду будучай свяцільні, канструктары, якія перакладаюць іх ідэі на мову пэўных тэхнічных рашэнняў, вытворчыя падраздзяленні, брыгада мантажнікаў, якая ажыццяўляе работы па ўсталёўцы гатовых вырабаў на аб'ектах, - знаходзяцца ў пастаянным узаемадзеянні. Гэта дазваляе хутка і эфектыўна ўносіць неабходныя карэктыроўкі на любым этапе вытворчасці, аператыўна рэагаваць на новыя акалічнасці і магчымыя змяненні сітуацыі на самім аб'екце, вырашаць іншыя пытанні, якія ўзнікаюць падчас работ. Вось чаму выраб свяцілень займае значна менш часу, чым можна было б чакаць ад вырабаў такога высокага класу: у залежнасці ад узроўню складанасці на выкананне ўсяго цыклу патрабуецца 1,5-2 месяцы.

Сёння буйнагабарытныя святлотэхнічныя кампазіцыі ЗАТ "Каскад" - гэты сімбіёз эксклюзіўнага дызайну і перадавых тэхналогій у вобласці асвятлення інтэр'еру - усё часцей становяцца галоўнымі ўпрыгожваннямі шматлікіх знакавых аб'ектаў, вылучаючы з навакольнай рэчаіснасці звычайнасць і абрыдлыя стандарты асвятлення.

*Паводле Е. Ярмаковіча, "Майстэрня".*

## У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА "МІСІЯ ААН-ЮНРРА Ў БЕЛАРУСІ Ў 1946—1947 ГАДАХ"

У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны 20 ліпеня адкрылася выстава "Місія ААН-ЮНРРА ў Беларусі ў 1946—1947 гадах", арганізаваная музеем сумесна з прадстаўніцтвам ААН у Беларусі пры садзейнічанні пасольства ЗША ў Беларусі.

Экспазіцыя адлюстроўвае дзейнасць Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый (UNRRA, UN Relief and Rehabilitation Administration), створанай у лістападзе 1943 для аказання дапамогі краінам, якія найбольш пацярпелі ў гады другой сусветнай вайны. За час працы місіі ЮНРРА ў Беларусі яна атрымала 141.853 тоны харчавання, медыкаментаў, абсталявання і матэрыялаў на суму каля 61 млн. долараў ЗША.

Дырэктар музея Сяргей Азаронак назваў гэту дапамогу "бескарыслівай, неабходнай і плённай".

Паводле слоў кіраўніка прадстаўніцтва ААН Джыхан Султанаглу, толькі ЗША для вяртання бежанцаў і аказання іншай дапамогі людзям, якія пацярпелі ад наступстваў вайны, выдзелілі 2,3 млрд. долараў. "Каб уявіць аб'ём гэтай сумы ў цяперашніх цэнах, яе неабходна павялічыць у дзесяць разоў", — зазначыла Дж. Султанаглу. Яна назвала ўзорнай дзейнасць 15 супрацоўнікаў місіі ЮНРРА ў Беларусі, якія прыступілі да працы 60 гадоў таму і пражывалі ў Лошыцкай сядзібе на ўскрайку Менска.

Ад імя амерыканскага народа пасол США Джордж Крол выказаў падзяку беларусам, якія даглядаюць магілу супрацоўніцы місіі, грамадзянкі ЗША Рут Уолер. Пасля выратавання дзяцей, якія патаналі, яна цяжка захварэла і памерла 4 жніўня 1946 года. Р.Уолер пахавана ў Менску на Ваенных могілках. "На жаль, яе муж Тэадор Уолер, які некаторы час узначальваў місію і цяпер жыве ў ЗША, з-за ўзросту не можа адчуць гасціннасць беларусаў, якія цяпер жывуць у цудоўнай краіне, а не на папялішчы", — сказаў дыпламат.

Дж.Крол мяркуе, што выстава будзе карыснай маладым беларусам, якія змогуць даведацца, як ААН і ЗША падтрымлівалі беларусаў у цяжкую для іх гадзіну.

На думку дырэктара Нацыянальнага архіва Вячаслава Селяменева, выстава, на якой прадстаўлены матэрыялы айчынных архіваў і музеяў, а таксама Архіва ААН, бібліятэкі Калумбійскага універсітэта (ЗША) і ўласнага архіва Т.Уолера, будзе карыстацца вялікай цікавасцю ў Беларусі.

**М. ГАРАВЫ, БелаПАН.**




# ЛІДЧЫНА




*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Маршрут № 1.**

**ДВОРЫШЧА** - цэнтр сельсавету.

З XVI стагоддзя гэтая вёска (а ў мінулым маёнтак, двор, адкуль і пайшла яго назва) належала Ільінічам, Радзівілам, пазней - віленскім езуітам. У канцы XVIII стагоддзя Дворышча стала мястэчкам, у якім праз стагоддзе ўжо можна было ўбачыць касцёл, бровар, піваварны завод, вадзяны



*Вежа, што ацалела ад панскага палаца*

млын, крахмальны завод, карчму.. Млын і рэшткі многіх іншых пабудоў дайшлі да нашых дзён. Касцёл, заснаваны ў 1591 годзе рэктарам Віленскай езуіцкай акадэміі Г. Анабіёна, праіснаваў да 1880-х гадоў. Ацалела толькі яго капліца ў імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

У Дворышчы працуе конезавод.

На 1.1.1996 г. у Дворышчы 145 двароў, 460 жыхароў.

**ДУБРОЎНЯ** - цэнтр сельсавету.

Самая старажытная паводле пісьмовых крыніцаў вёска Лідскага раёна. Першы раз яна згадваецца ў сувязі з паходам, пачатым у канцы 1381 года Вялікім князем Літоўскім Кейстутам супраць свайго пляменніка князя Карыбута, які валодаў Наваградкам. Кейстут выступіў супраць Карыбута і па дарозе ў яго ўздзел напаў на Дуброўню, за 5 вёрст ад Ліды, схапіў тут Вайдылу і загадаў яго павесіць у 1381 г.".

Вайдыла быў халопам Вялікага князя Альгерда (1345-1377): *"Нѣхто пак у великого князя Олгирда холоп Войдило. Пръвое был лекарцом, а потом уставил его постелю собѣ слати и воду давати собѣ пити, потом пак полюбился ему велми и дал был ему Лиду дръжати, и повел его у великых. Потом по животѣ великого князя Олгирда двѣ лѣть больши ль было, князь великый, Ягайло поведеть его велми у высокых и даст за него сестру свою родную, княгиню Марью... Князю Кестутю великую нелюбов и жалость вдълал, што братанку его, а сестру свою за холопа дал. И был той Войдило у великой моцы у великого князя Ягайла и почал в нъмцы собѣ чиниты а записываться грамотами противу великого князя Кестута".*

Унікальная, легендарная асоба XIV стагоддзя гэты Вайдыла — халоп, стаўшы баярынам, і мужам княжны.

З-за Вайдылы князь Кейстут здзейсніў дзяржаўны пераварот; скінуў Ягайлу з вялікакняскага пасаду і адразу ж расправіўся з Вайдылам. Помста Ягайлы і Марыі была бязлітаснай — 80-гадовы князь Кейстут быў задушаны ў Крэўскім замку. Смерць Вайдылы на думку польскага гісторыка Паўла Ясяніцы, адвярнула Вялікае Княства ад праваслаўя, бо Вайдыла быў праваслаўным, вяліся перамовы пра шлюб Ягайлы з адной з дочак Зміцера Данскога.

Вайдыла - адзін з галоўных герояў паэмы Пятра Бітэля "Людзі і замкі".

*"І стаў Вайдзіла жыць у замку.*
*Спярша тужыў па волі-долі,*
*Пасля, прывыкшы да няволі,*
*Замкнуў жыццё у тую рамку,*
*Што распарадкам дня завецца*
*І, як між слугамі вядзецца,*
*Пачаў цягнуць пакорна лямку.*

*Ён перш быў хлопцам для паслугі,*
*Хадзіў туды, дзе загадалі,*
*Рабіў, што толькі пажадалі*
*Княгіня, князь, паны, іх слугі.*
*Шторазь то рэха мур будзіла:*

*«Вайдзіла, дзе ты? Гэй, Вайдзіла!*
*Што, паспытаць жадаеш пугі?»*

*Ды час ішоў, міналі годы,*
*Вайдзіла рос і жыць вучыўся.*
*З загаду князя хутка ўліўся*
*Ў сям'ю вайсковага народа.*
*Жыццё інакш каціцца стала*
*І паступова замятала*
*Дзяцінства цяжкага нягоды.*

*І вось у князевай дружыне,*
*Хоць і за ўсіх ён маладзейшы,*
*Ён самы смелы, найспрытнейшы.*
*А ў той жыццёвай блытаніне*
*Ён не шукае спрэчак, звады,*
*Але і ворагу дасць рады,*
*І сябра ў горы не пакіне.*

*Прывык да бітваў і паходаў*
*Супроць татараў, немцаў, ляхаў*
*І сустракаць прывык без дахаў*
*І халады і непагоды.*
*А ў час баёў ці паляванняў*
*Не ведаў страху, ні хістанняў,—*
*Яму адно — ў агонь ці ў воду.*

*Ды толькі сумны ён якісьці,*
*Ні з кім сяброўства не заводзіў,*
*Быў панам сам сабе, дый годзе.*
*І ўсё таксама, як калісьці,*
*Глядзеў на Кейстута варожа —*
*Ніяк з той спадчыны нягожай*
*Не мог знайсці у думках выйсця.*

*Ён помніў матчыны праклёны,*
*Якімі кожны дзень, бывала,*
*Яна Кейстута абсыпала.*
*Але чаму такі шалёны*
*Гнеў выклікала імя гэта,*
*Не скажа бедная кабета —*
*Над ёй гамоніць лес зялёны...*

Вось да якіх жарсцяў спрычынілася Дуброўня.

Замак Вайдылы размяшчаўся ў Дуброўні. У сярэдзіне 19-га стагоддзя яшчэ паказвалі фундамент палаца Вайдылы.

На 1.01.2004 у Дуброўні 148 двароў, 404 жыхары.

**ПЕРШАМАЙСКІ,** пасёлак Дубровенскага сельсавету. Знаходзіцца за 8 км на ўсход ад раённага цэнтра Ліда, за 8 км ад чыгуначнай станцыі Ліда, на аўтамабільнай дарозе Ліда— Іўе. Пасёлак заснаваны ў 1964 г. у сувязі з будаўніцтвам тарфянога завода.

На 1.1.2004 г. - 505 двароў, 1340 жыхароў.

Пры Першамайскім доме культуры працуе Народны хор **"Журавінка"**. *Створаны ў 1960 г.*



*Спявае "Журавінка"*

*У рэпертуары не толькі народныя беларускія, рускія, украінскія, польскія, але і аўтарскія песні і харэаграфічныя замалёўкі. Калектыў лаўрэат трох усесаюзных фестываляў народнай творчасці, неаднаразовы пераможца раённых, абласных і рэспубліканскіх фестываляў і конкурсаў, выступаў у Польшчы, Літве, Калінінградзе (мастацкі кіраўнік А.Э. Міцкевіч).*

**СЦЕРКАВА,** вёска Бердаўскага сельсавету. На пачатку XX ст. вёска Лідскай валасці Лідскага павету. З 18 сакавіка 1921 да верасня 1939 г. у складзе Польшчы, вёска Лідскай гміны Лідскага павету Навагрудскага ваяводства. З тых часоў захавалася паданне, як сцеркаўскі солтыс Станіслаў Цешка "змагаўся" супраць Беларускай сялянскай грамады.

Грамадоўцы паводле сваёй сацыялістычнай сутнасці на розныя рэвалюцыйныя святы ладзілі дэманстрацыі і хадзілі з чырвонымі сцягамі. Польскія ўлады патрабавалі ад солтысаў не дапускаць тых дэманстрацыяў. Цешка паступаў наступным чынам: "Гэта яны з голаду дэманструюць", - казаў ён, і ў Сцеркаве для дэманстрантаў накрывалі стол, ставілі паесці і, нават, выпіць. Пасля добрага пачастунку сацыялістычныя настроі ішлі на спад, дэманстранты згортвалі сцягі і расходзіліся па дамах.

*У Сцеркаве 27 ліпеня 1963 нарадзіўся мастак і скульптар **Рычард Груша**, аўтар шматлікіх*



*Рычард Груша*

*памятных знакаў дзеячам беларускай культуры: І. Дамейку, А. Міцкевічу, Я. Быліну, І. Гашкевічу, У. Сыракомлю, бацьку І. Дамейкі. За памятны знак І. Дамейку ўзнагароджаны дыпломам камісіі па справах ЮНЕСКА. Устанавіў камяні да свята сярэднявечнай культуры ў Нясвіжы, дня беларускага пісьменства і друку ў Полацку, да дажынак у Пружанах, на месцы расстрэлу лідскіх яўрэяў і інш. Помнік на месцы Навагрудскага катла аднесены да помнікаў 3-й катэгорыі.*

*Паэт. Аўтар больш 200 вершаў на беларускай і рускай мовах. На вершы Рычарда Грушы напісана 18 песень кампазітарамі з Горадні, Ліды, Астраўца.*

На 1.1.1996 г. у Сцеркаве — 151 падвор'е, 320 жыхароў.

На 1.1.2004 г. - 118 двароў, 261 жыхар.

**БЕРДАЎКА** - цэнтр сельсавету.

З 60-х гадоў XIX стагоддзі Бердаўкай валодаў Аляксандр Дамбавецкі (1840 - 1914) -вядомы беларускі краязнаўца і грамадскі дзеяч. На працягу 20 гадоў (1872 - 1893} ён быў магілёўскім губернатарам, а з 1893 года-царскім сенатарам. Па яго ініцыятыве ў 1879 годзе ў Магілёве былі створаны гістарычна-этнаграфічны музей і выдадзена трохтомная "Спроба апісання Магілёўскай губерні...", якую назавуць "Энцыклапедыяй магілёўскага жыцця".




*Мемарыяльная дошка ў памяць А. Дамбавецкага. Аўтар Рычард Груша.*

У Бердаўцы ў 1880-х гадах ён пабудаваў палац, шматлікія гаспадарчыя і прамысловыя будынкі (млын, цагляны і спіртавы заводы і інш.), разбіў парк. Так паступова склалася аблічча сядзібы, у якой у міжваенны перыяд дзейнічалі сельскагаспадарчая школа, конезавод (апошні функцыянаваў аж да 1956 года). Зараз у былым маёнтку размяшчаюцца Дом культуры і бібліятэка.

У 1985 годзе ў Бердаўцы Лідскага раёна заснаваны **сямейны ансамбль Парфенчыкаў Бердаўскага цэнтральнага дома культуры.** *У рэпертуары беларускія, рускія, украінскія, польскія песні і асабістыя творы А.Парфенчыка, І.Парфенчык і З.Унучка. Мастацкі кіраўнік А.Г.Парфенчык.*

*Ансамбль прымаў удзел у рэспубліканскім фестывалі сямейных ансамбляў, дзе стаў лаўрэатам, узнагароджаны граматай ААН, дыпломамі Міністэрства культуры за ўклад у зберажэнне і развіццё беларускай народнай культуры. Удзельнікі калектыву выязджалі ў г. Добра Място (Польшча) на фестываль сямейных ансамбляў, прымалі ўдзел у праграме беларускага тэлебачання «Беларускі дом».*

*А. і І.Парфенчыкі з'яўляюцца дыпламантамі першага рэспубліканскага фестывалю аўтарскай песні «Залатая горка», які праходзіў у Менску ў 1993 г.*

*У 1994 г. калектыў атрымаў званне «народны».*

У вёсцы працуе краязнаўчы музей, які стварыў педагог і краязнаўца Анатоль Крупы.

На 1.01.2004 г. у Бердаўцы237 двароў, 633 жыхароў.



*Сямейны ансамбль Парфенчыкаў*




# ЛІДЧЫНА




**БІСКУПЦЫ,** вёска Дакудаўскага сельсавету. Знаходзіцца за 23 км на паўднёвы ўсход ад г. Ліда. На пачатку ХХ ст. вёска Дакудаўс-кай воласці Лідскага павету, 270 жыхароў, 383 дзесяціны зямлі. Дзейнічала школа царкоўнага пісьменства (адкрыта ў 1901 г.), якая адносілася да Дакудаўскага праваслаўнага прыходу. З сакавіка 1921 да верасня 1939 г. у складзе Польшчы.

Біскупцы - радзіма **Данута Бічэль.**



*Данута Бічэль*

***БІЧЭЛЬ Данута Янаўна*** *(н. 3.12.1937, в. Біскупцы Лідскага р-на), паэтэса. Скончыла Гарадзенскі педагагічны інстытут (1962). Дзяржаўная прэмія Беларусі (1984). Паэзія Б. спалучае лірычна-спавядальны і філасофска-аналітычны планы, вызначаецца аб'ёмнай метафарычнасцю, асацыятыўнасцю вобразаў, вольным інтанацыйным ладам. У аснове творчасці — бел. нар.-паэтычная традыцыя, якая па-рознаму выяўляецца на розных этапах мастацкага развіцця. У ранняй лірыцы (зборнікі «Дзявочае сэрца», 1961; «Нёман ідзе», 1964) уздзеянне фалькл.-песеннай паэтыкі — у эмацыянальнай адкрытасці, непасрэднасці і чысціні рамантычнага пачуцця, суладнага з жыццём роднай прыроды. У зборніку «Запалянкі» (1967) — зварот да змястоўных, маральна-этычных каштоўнасцяў фальклору. Праз вобразы сялянскіх рытуалаў, буслянкі, жыта, адбеленых палотнаў, праз традыцыйна-побытавую культуру вёскі раскрываецца харство і сіла бел. нар. духу. У больш позніх творах усё больш схіляецца да паэтызацыі прозы вясковага жыцця з яго этнаграфічнымі рэаліямі, лекавымі зёлкамі, бабулямі (зборнікі «Доля», 1972; "Ты — гэта ты", 1976). І менавіта тут адкрывае вялікія ісціны быцця радзімы, бачыць сябе ў цэнтры Сусвету. У вершах прыкмячаюцца матывы нар. быляў, чуюцца галасы продкаў і спрадвечна ўстойлівая, змацаваная нар. магіяй маральная сістэма жыцця. Харасство яго раскрываецца з нар. паэтычных пазіцый. З язычніцкім адчуваннем перадае Б. багацце і моцны пульс дыхання прыроды, адчуваючы сябе часцінкай яе жыццятворчых рухаў. Стылізаваным пад нар.-песенную традыцыю, нясмела-жартаўлівым паказвае паэтэса ў ранняй лірыцы каханне. У сталы ж перыяд гучыць самаахвярнае, драматычна-глыбокае на нар.-баладны лад перажыванне жанчыны, якая зведала цану радасці і гора. У зборніках «Дзе ходзяць басаножа» (1983), «Загасцінец» (1985), "А на Палессі»"(1990), "Божа мой, Божа" (1993) арганічныя героіка-эпічныя ноты асэнсавання нац. гісторыі, яе постацяў, якія паўстаюць часцей у нар.-легендарным ці прытчавым асвятленні. У гэтым эстэтычным шэрагу і вершы-літанні, звернутыя да боскай сілы. У іх раскрываецца высокае пачуццё і літаратурна трансфармаваныя стылістычныя фігуры замоў. Лексічны арсенал паэзіі Б. арганічна збліжаецца з жывой маўленчай і нар.-паэтычнай стыхіяй бел. фальклору.*

*А. М. Пяткевіч. "Беларускі фальклор. Энцыклапедыя." Т. 1, ст. 178-179.)*

На 1.1.1996 г. у Біскупцах — 80 падвор'яў, 160 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 65 двароў, 137 жыхароў.

**ПЯТРЫ,** вёска Дакудаўскага сельсавету. Знаходзіцца за 23 км на паўднёвы ўсход ад г. Ліда, за 20 км ад чыгуначнай станцыі Нёман. На пачатку ХХ ст. вёска Дакудаўскай воласці Лідскага павету, 193 жыхары, 142 дзесяціны зямлі. З сакавіка 1921 да верасня 1939 г. у складзе Польшчы, вёска Дакудаўскай гміны Лідскага павету Навагрудскага ваяводства. На 30.9.1921 г. — 30 жылых пабудоў, 180 жыхароў.

На1.1.1996г. — 22 падвор'і, 38 жыхароў.

На 1.1.2004 г. - 18 двароў, 27 жыхароў.

**Сядзіба "Пятры".**

Пры дарозе М6 Гародня - Менск, не даязджаючы да ракі Гаўі, на ўскраіне вёсачкі Пятры размешчаная гэтая сядзіба-хутар ў атачэнні лесу і возера. Тут ёсць дзве хаты і мураваная альтанка. У двухпавярховым асабняку да паслуг аматараў сельскага адпачынку гасцёўня з тэлевізарам, музычным цэнтрам, камінам, чатыры ўтульныя спальні, лазня. Унутраныя памяшканні аздобленыя натуральным дрэвам. У другой хаце два спальныя пакоі з камінам і варыўнай печчу. Гаспадар Сяргей Страх арганізуе для сваіх гасцей пешыя і веласіпедныя пагулянкі па лясных дарогах, паляванне, адпачынак на Нёмане, паходы ў ягады ў журавінавы заказнік...



*Сядзіба "Пятры"*

**ДАКУДАВА** - цэнтр сельсавету.

Перад вёскай пры ўездзе з дарогі Гародня - Менск справа ад дарогі знаходзіцца геадэзічны знак Дугі Струве, унесеная ў Сусветны спіс ЮНЕСКА, помнік 0-вой катэгорыі.



*Вонкавы геадэзічны знак пункта Дугі Струве каля в. Дакудава Лідскага раёна.*

Царква Нараджэння Багародзіцы ў 1866 году заняла месца ранейшага ўніяцкага храма 1795 года. Яе выгляд -рэтраспектыўна-рускі - традыцыйны для свайго часу.



*Дакудаўская царква Нараджэння Багародзіцы*

На паўднёвай ускраіне вёскі захаваліся археалагічныя помнікі - паселішчы XI - XII стагоддзяў, а таксама VI - VIII стагоддзяў, калі ішла актыўная каланізацыя балтаў славянамі.

Верагодней усяго, менавіта ў гэтым Дакудаве (бо ёсць і іншыя) князь Зміцер-Карыбут Альгердавіч, які ўцёк з Лідскага замка ўзімку 1392 года пры набліжэнні войска крыжакоў і Вітаўта, сустрэўся з сіламі, пасланымі Вітаўтам, каб уціхамірыць свавольнага суродзіча, які патрабаваў у яго пасля ўцёкаў вяртання Ліды. Князь Карыбут быў тут ушчэнт пабіты, а затым адпраўлены ў палон да свайго роднага брата Ўладзіслава-Ягайлы.

На 1.01.1996 г. у Дакудаве 206 двароў, 460 жыхароў.

На 1.01.2004 г. - 107 двароў, 242 жыхары.

**Сядзіба "Дакудава".**

Гаспадары Агарка Юры і Святлана. Прапануюць аматарам вясковага турызму поўныя цыклы звароту сельскагаспадарчых культур: жыта-пшаніца (ад зярняці да аладкі або булкі), лён (ад сем'я да тканіны), а таксама ўсе віды адпачынку ў басейне Нёмана.

**ГАНЧАРЫ** - цэнтр сельсавету.

Пакроўская царква будавалася ў 1770-х гадах як уніяцкая, пасля стала праваслаўнай. Дынамічнасць ёй надае высокая вежа-званіца з цыбульным купалам, увянчаным дэкаратыўна выразаным крыжом. Гэта складаны па сваёй канструкцыі храм, унутраны абшар якога падзелена трыма парамі квадратных слупоў на тры нефы -з іх цэнтральны ўдвая шырэй бакавых і завершаны кілепадобным зборам. Столі бакавых нефаў плоскія. Перад царквой знаходзіцца драўляная двух'ярусная званіца другой паловы XIX стагоддзя. Яе ніжні ярус з брусоў - глухі; верхні -"празрысты", з парапетам.



*Пакроўская царква ў Ганчарах*

За 1 км на паўн. усход ад вёскі знаходзіцца стаянка каменнага-бронзавага вякоў, 10-7 тысячагоддзі да н. э.

На 1.01.1996 года ў Ганчарах 161 двор, 435 жыхароў.

На 1.01.2004 г. - 173 двары, 415 жыхароў.

**АГАРОДНІКІ** - вёска Ганчарскага сельсавету

Гэтае сяло, вядомае з XIX стагоддзя, не так даўно "паглынула" былы маёнтак Вашкевічы, якім валодалі Салагубы. У 1763 годзе яны заклалі тут фамільную капліцу, звернутую сваім фасадам да іх сядзібнага дома. З часам капліца, перабудоўваючыся, ператварылася ў касцёл у імя Святых Яўхіма і Ганны (бацькоў Панны Марыі). У пасляваенныя гады гэты цікавы будынак быў на грані знікнення, але дзякуючы высілкам мясцовых энтузіястаў святыня аднаўлена. Сёння яна лічыцца найстарэйшым ацалелым каталіцкім храмам Лідчыны. Касцёл, мабыць, занадта "шырокі ў касцях": працяглы шасцікалонны порцік тасканскага ордэру трымае драўляны трохкутны франтон, над якім падымаецца двух'ярусная вежа.



*Касцёл святых Яўхіма і Ганны ў Агародніках*

На 1.01 1996 г. у Агародніках 85 двароў, 194 жыхары.

На 1.01.2004 г. - 79 двароў, 165 жыхароў.

У 1897 годзе ў Агародніках адкрыта школа царкоўнага пісьменства, якая адносілася да Ганчарскага праваслаўнага прыходу. У 1913 годзе ў гэтай школе працаваў настаўнікам **Рыгор Шырма.**

***ШЫРМА Рыгор Раманавіч*** *(20.1.1892, в. Шакуны Пружанскага р-на — 23.3. 1978), фальклярыст, харавы дырыжор, педагог, публіцыст, музычны і грамадскі дзеяч. Народны артыст Беларусі (1949). Народны артыст СССР (1955). Герой Сацыялістычнай Працы (1977). Дзяржаўныя прэміі Беларусі 1966, 1974. Скончыў Седлецкі настаўніцкі інстытут (Польшча, 1918). З 1912 настаўнічаў. З 1914 член этнаграфічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства. З 1919 дырэктар арганізаванай ім школы ў Варонежскай вобласці. У 1926 выкладчык Віленскай бел. гімназіі, арганізатар і кіраўнік нар. хораў у Пружанах, бел. гімназіі, Бел. саюза студэнтаў. Вёў культурна-асветную і літаратурна-публіцыстычную дзейнасць у Заходняй Беларусі. У 1927-29 член і сакратар (1927-37) Галоўнай управы Таварыства бел. школы. У 1933 арганізатар, выдавец і аўтар таварыства «Летапіс таварыства бел. школы» (з 1936 — «Беларускі летапіс").*



*Рыгор Шырма*




# ЛІДЧЫНА




*За сваю дзейнасць пераследаваўся ўладамі Польшчы, двойчы быў зняволены. У 1940 сфармаваў у Беластоку Бел. ансамбль песні і танца, рэарганізаваны ў Дзяржаўны хор Рэспублікі Беларусь (1950), Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу Рэспублікі Беларусь (1955), якую ўзначальваў да 1970, з 1978 яго імя. У 1966—78 Старшыня Саюза кампазітараў БССР і сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР. Збіральніцкую работу пачаў у 1907, выдаў шэраг фалькл. зборнікаў для школьных і самадзейных хароў «Беларускія народныя песні» (1929), «Наша песня» (1938). Запісаў больш за 2000 нар. песень і твораў нар. прозы, частку якіх змясціў у зборніках «Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі» (1947), «Беларускія песні» (1955), «Школьны спеўнік» (1959). Выданне «Дзвесце беларускіх народных песень» (1958) стала анталогіяй песеннай традыцыі заходнебел. рэгіёна, у ім адлюстраваў большасць распаўсюджаных тут тыпавых напеваў і сюжэтна-тэматычных груп песень каляндарнага і сямейнага цыклаў, даў меладычны «партрэт» пазаабрадавай песні. Асноўная фундаментальная фалькл. праца Ш. — «Беларускія народныя песні» (т. 1—4, 1959—76) — вызначаецца па-мастацку дасканалымі песеннымі ўзорамі жанраў і гісторыка-стылявых пластоў, характэрнымі рытмамеладычнымі і лада-інтанацыйнымі тыпамі напеваў. Падрыхтаваў выданне «Беларускія народныя песні» (т. 1—2, 1971—73), куды ўвайшлі лепшыя апрацоўкі з рэпертуару Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі, зробленыя на працягу 40 гадоў бел., рускімі, украінскімі і латышскімі кампазітарамі. Свае эстэтычныя погляды, збіральніцкія прынцыпы, меркаванні наконт генезісу асобных фалькл. жанраў і інш. выказаў у прадмовах да зборнікаў песень, шэрагу артыкулаў. Асноўныя публіцыстычная спадчына Ш. па праблемах фальклору, музыкі, літаратуры і грамадскага жыцця сабрана ў кн. «Песня — душа народа» (1976, 2-е выд. 1993).*

***Т.Б. Варфаламеева.***



*Адміністрацыйны корпус шклозавода "Нёман"*



*Дзіцячы танцавальны калектыў "Крышталікі"*

**БЯРОЗАЎКА** - адзіны горад у Лідскім раёне, акрамя Ліды, з 12 тысячамі жыхароў, з якіх ледзь не палова так або інакш звязаная з найбуйным бярозаўскім прадпрыемствам - шклозаводам "Нёман". З яго, уласна, і пачалося станаўленне шкляной справы на Лідчыне. У верасні 1883 года мясцовы абшарнік Зянон Ленскі звярнуўся да ўладаў з пісьмовай просьбай аб выдачы яму дазволу "устроіць на лясной дачы маёнтка Зайчыцы гуту". Абшарніка лёгка зразумець: па-першае, з'явіўся попыт на шкляны посуд для Лідскога піўзавода; па-другое, сыравіна (кварцавы пясок) і паліва (з Налібоцкай пушчы) існавалі ў неабмежаванай колькасці; нарэшце, па-трэцяе, пад бокам была танная працоўная сіла.

Несумнеўна, прадпрымальніцтва Зянона Ленского абяцала вялікія выгады, але з-за адсутнасці тэхнічнай дакументацыі яго хадайніцтва адхілілі. Нягледзячы на гэта, завод быў пабудаваны і даваў прадукцыю. Месца яго першага размяшчэння ў ляску, недалёка ад горада Бярозаўкі, якога ў той час яшчэ не было, атрымала назву "Старая гута". У 1891 годзе Ленскі здаў завод у арэнду Вільгельму Краеўскаму і Юліюсу Столе. Можна сказаць, што з гэтага моманту і пачалося сапраўднае развіццё прадпрыемства, паколькі новыя гаспадары, акрамя прадпрымальніцкай жылкі, мелі прафесійныя спазнанні ў вобласці шкляной вытворчасці. Пры іх завод пачаткаў вырабляць крышталь, абсталяваўся замежным абсталяваннем, пераважна нямецкім. Тэхнічнымі кансультантамі і наладчыкамі абсталявания былі бельгійскія, нямецкія, польскія адмыслоўцы. Патрапіўшы ў добрыя рукі, прадпрыемства значна пашырыла асартымент сваёй прадукцыі.

У 1905 годзе трагічна загінуў Вільгельм Краеўскі -патануў у Нёмане. Юліюс Столе даў шчодры водкуп родным загінулага кампаньёна і стаў адзіным гаспадаром Бярозаўскага завода. Першую сусветную вайну ён з сям'ёй перажыў у Маскве. Пасля канца вайны вярнуўся на завод, кіраваць якім яму дапамагалі ўжо сыны. Не прайшло і двух гадоў, як ізноў давялося з'ехаць - пачалася савецка-польская вайна, пасля якой Заходняя Беларусь адышла да Польшчы. Столе ізноў вяртаецца на свой завод, і з 1923 года ўжо існуе фірма "Столе і сыны". У наступныя гады, нават ва ўмовах сусветнага эканамічнага крызісу, каля паловы прадукцыі завода ішло на экспарт.

Профіль вытворчасці захаваўся і пасля аб'яднання Беларусі ў 1939 годзе. Аднаўлены пасля Вялікай Айчыннай вайны шклозавод "Нёман" доўгі час быў трэцім па велічыні сярод родnасных яму прадпрыемстваў Савецкага Саюза - пасля Гусь-Крыштальнага і Дзяцькаўскага ў Расіі. Карэнныя змяненні ў лёсе прадпрыемства адбыліся ў 1960-х гадах, калі сюды прыбылі прафесійныя мастакі, якія пачалі ствараць не толькі ўтылітарныя прадметы з шкла, што тыражуюцца ў масавай вытворчасці, але і вырабы, выкананыя ў адзіным асобніку. Так у Бярозаўцы быў пакладзены пачатак самабытнай школе мастацкага шкла.

Усё лепшае, што створана на "Нёмане", сёння можна ўбачыць у завадскім музеі, куды арганізуюцца экскурсіі, якія ўключаюць у сябе і азнаямленне з сучаснай вытворчасцю. У музеі прадстаўленыя і высакародны празрысты крышталь, і ўсе магчымыя адценні шкла самых розных форм, і малочна-дымчатое шкло са знакамітай "нёманскай ніткай", якое аддалена нагадвае працы старых венецыянскіх гутнікаў. Шматлікія экспанаты -сапраўдныя творы мастацтва, адзначаныя прэміямі, дыпламамі, медалямі шматлікіх прэстыжных міжнародных кірмашоў і выстаў. Гледзячы на гэтыя дзіўныя вырабы, якія заварожваюць сваёй прыгажосцю, мімаволі ўспамінаеш радкі з урачыстай оды Ламаносава:

"Сляваю перад табой
у захапленні хвалу -
Не каменям дарагім,
не золату, а шклу"

У Бярозаўцы дзейнічае **Народны ансамбль беларускай музыкі і песні «Прынямонцы» Бярозаўскай дзіцячай музычнай школы.** *Заснаваны ў 1982 г. Ідэя стварэння калектыву належала В.І.Сычэўскай, дырэктару школы. У склад ансамбля тады ўваходзіў увесь педагагічны калектыў. Мэтай ставілася далучэнне выкладчыкаў да выканаўчай, творчай, музычнай дзейнасці. Спачатку выконваліся толькі інструментальныя творы, затым і вакальна-інструментальныя. У цяперашнім рэпертуары калектыву акрамя твораў вакальна-інструментальнага жанру прысутнічаюць і беларускія народныя танцы, полькі, вальсы.*

*Ансамбль выступаў у абласным туры рэспубліканскага фестывалю «Беларусь — песня», удзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах горада і раёна, святочных канцэртах у школе.*

*Званне «народны» надазена ў 2000 г.*

**Дзіцячы танцавальны калектыў "Крышталікі" Бярозаўскага палаца культуры шклозавода "Нёман".**

*Створаны ў 1984 г. Кіраўнік Ж.У. Лебядзевіч, выпускніца Гарадзенскай культурна-асветнай вучэльні. У склад калектыву ўваходзяць дзеці 7 - 10 і 14 - 15 гадоў (больш 40 чалавек). З першых месяцаў стварэння калектыў удзельнічае амаль ва ўсіх мерапрыемствах ДК, горада, у раённых аглядах мастацкай самадзейнасці, святах, конкурсах, фэстах.*

*Творчая праца ў калектыве цесна перапляр[a]ецца з выхаваўчай. Праводзяцца гутаркі па гісторыі харэаграфіі, музыкі, прагляды тэматычных тэлеперадач, вялікая ўвага надаецца сумеснаму адпачынку дзяцей.*

*У 1997, 1999 гг. "Крышталікі" - лаўрэат конкурсу "Крыштальны чаравічак" (Ліда); 1997 г. - дыпламант рэспубліканскага фэсту "Танцуючы фламінга" (Гомель); 1998 г. - лаўрэат 1-га абласнога фэсту танца (Гародня) і 1-га фэсту народнай творчасці Беларусі "Беларусь - мая песня" (Менск); 1999 г. - дыпламант рэспубліканскага фэсту "Залатыя ключы" (Салігорск) і фіналіст рэспубліканскага тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства".*

**Сядзіба "Над Нёманам".**

Гаспадары гэтай сядзібы Валеры і Аксана Салькоўскія - актыўныя ўдзельнікі Грамадскага аб'яднання "Агра- і экатурызм". Сваім гасцям яны могуць прапанаваць, акрамя ўтульнага жылля ў добра спланаванай хаце, разнастайную культурную праграму - напрыклад, спуск на драўляным плыце па Нёмане, наведванне Ліды, Навагрудка, Бярозаўкі. Абавязкова варта паспрабаваць настойкі з травы, зробленай Аксанай па старадаўніх беларускіх рэцэптах, паназіраць за разборкай свіні (а гэта цэлы рытуал!), прадэгуставаць "свежаніну"... Завяршыць дзень можна вечарынкай з удзелам мясцовых музыкаў, тым больш што сам фальварковец - адзіны ў Беларусі прафесіянал ігры на звончатых гуслях, лаўрэат Міжнароднага музычнанага конкурсу ў Італіі (1993). Пабываўшы тут, вы абавязкова захочаце вярнуцца ў гэтую цёплую і гасцінную хату, размешчаны ў дзіўна маляўнічым месцы - на абрывістым пяшчаным беразе Нёмана на канцы Бярозаўкі.



*Сядзіба "Над Нёманам"*



*Народны ансамбль беларускай музыкі і песні «Прынямонцы»*





# ЛІДЧЫНА




**ВЯЛІКІЯ КАНЮШАНЫ,** вёска Тарноўскага сельсавету. Знаходзіцца за 20 км на паўднёвы захад ад раённага цэнтра Ліда, за 10 км ад чыгуначнай станцыі Нёман. На пачатку XX ст. вёска Ганчарскай воласці Лідскага павета, 321 жыхар, 499 дзесяцін зямлі. У 1921 — 1939 гг. у складзе Польшчы. Паводле польскага перапіеу ад 30 верасня 1921 г., вёска Ганчарскай гміны Лідскага павету Навагрудскага ваяводства, 66 жылых пабудоў, 345 жыхароў. У 1950 г. створаны калгас. У 1954—1965 гг. — цэнтр сельсавету.

На 1.1.1996 г. — 96 падвор'яў, 198 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 80 двароў, 160 жыхароў.

У 1913-14 гадах у Вялікіх Канюшанах жыў Рыгор Шырма, пра што існуе мясцовае паданне. На аснове гэтага падання Станіслаў Суднік стварыў верш:

*Па-над рэчкай, над Дзітвою*
*Песня разняслася,*
*Аксамітавым сувоем*
*Ночка разлілася.*

*Па-над гаем, па-над борам,*
*Па-над паплавамі...*
*Разам з міленькім Рыгорам*
*Мы спяваем самі.*

*Мы ад вечара да рана*
*Ўзімку і прадвеснем*
*На абое Канюшанаў*
*Нагалосім песняў.*

*Што за хлопец, што за спеўны*
*І адкуль узяўся,*
*Ён за Божу ласку, пэўна,*
*Нам сюды дастаўся.*

*Разліваецца сардэчнай*
*Песняю світанне,*
*Парадніліся навечна*
*З Шырмам канюшане.*

**БЕЛАГРУДА** - вёска Тарноўскага сельсавету.

Міхайласкі касцёл (помнік 2-й катэгорыі) размясціўся на высокім беразе Дзітвы ў пачатку XX стагоддзя і дэманструе гледачу - франтальна - свой раманагатычны твар. Зразумела з папраўкай на час, у які панаваў мадэрн. Прысутнасць апошняга асабліва адчувальна ў алтарнай частцы святыні: дынамічная кампаноўка аб'ёмаў закрыстый, кантаванай абсіды і выступаў трансепта нараджае выразную святлоценявую пластыку храма.

Галоўны фасад строгі і велічны: дзве высокія вежы, накрытыя шатровымі дахамі, складаюць між сабой шчыт з трохкутным завяршэннем, традыцыйным акном-ружай і галерэяй. Усё гэта паспяхова ўпісана ў рэльефна выкладзеную цэглай паўцыркульную арку, куды змешчаны і высокі партал. Цагляным мурам "вышытыя" дэкаратыўныя ўзоры на фасадах будынка: фрызы, прафілі, лапаткі, апраўленні вокнаў... Інтэр'ер храма ўпрыгожаны фрэскавым арнаментальным жывапісам і захоўвае абраз Богамаці другой паловы XVII стагоддзі, змешчаны ў алтары вялікіх памераў.

За адзін кіламетар ад Белагруды - археалагічны помнік - селішча.



Міхайласкі касцёл у Белагрудзе

**ТАРНОВА** - цэнтр сельсавету. Тутэйшая сядзіба створана ў 1880-х гадах і ўключае ў сябе палац і гаспадарчыя пабудовы: стайню, лядоўню і пастаўлены на невялікім аддаленні ад палаца, сярод былога гаспадарчага двара, вятрак. Асабліва выразна глядзіцца дагэтуль сядзібны дом-палац - двухпавярховы, з вежай у чатыры паверхі, - у яго пластыцы выразна адчуваюцца водгукі архітэктуры італьянскіх рэнесансных палацо...

Сядзіба належала расійскаму генералу грэцкага паходжання Д. Маўрасу, ад'ютанту М. Мураўёва, празванага ў народзе "вешальнікам" за адмысловую жорсткасць у задушэнні паўстання 1863-1864 гадоў.

у выглядзе груд з валуноў, змацаваных вапнавым растворам. Тут некалі стаяў вялікі палац, у якім Уладзіслаў-Ягайла і Вітаўт у суправаджэнні сваіх світ падпісалі дамову аб перамір'і, што паклала канец братазабойчай вайне ў ВКЛ. Маёнтак Востраў быў вылучаны для гэтай сапраўды гістарычнай "Сустрэчы на Дзітве" не выпадкова: па рацэ праходзіла мяжа уладанняў "падпісантаў" Гедзімінавічаў, бо Гарадзенскае княства тады належала Вітаўту, а Лідскае - Ягайлу.

Сустрэліся тут стрыечныя браты, аднагодкі, сябры дзяцінства і маладосці - яны ж непрымірымыя ворагі і крэўнікі па помсце. Абодва, каб знішчыць адзін аднаго, звярталіся па дапамогу да крыжакоў, саступалі рыцарам Жамойцю-Жмудзь, як разменную манету. Абодва здраджвалі, парушалі клятвы, не раз мянялі веру па палітычных меркаваннях. Вось чаму разам з імі міравую падпісвалі і іх жонкі - Ядвіга і Ганна - як гаранты прымірэння...

Пакроўская царква пабудаваная ў Мыто ў 60-х гадах XIX стагоддзі. Яна складзеная з бутавага каменю і цэглы, упрыгожаная пабеленым дэкорам у выглядзе аркатурных фрызаў, арачных аконных праёмаў, кутніх лапатак і рэльефных крыжоў.

**ДЗІТВА** - пасёлак, цэнтр сельсавету.

У склад сельсавету ўваходзіць вёска **БАНЦАВІЧЫ**, у якой нарадзілася **Ганнна Радзько.**



Палац графа Маўраса ў Тарнове

**МЫТО.**

Гэтая вёска знаходзіцца на правым беразе ракі Дзітвы, у 15 км ад Ліды ля магістральнай дарогі М6 Менск - Гародня. А праз два кіламетры ад Мыта, па кірунку да вёскі Навасёлкі, захаваліся каменныя развалiны

***РАДЗЬКО*** *(па мужу Хальчанкова) Ганна Станіславаўна (н. 21.1. 1951, в. Банцавічы Лідскага р-на), бел, спявачка. Заслужаная артыстка Беларусі (1982). Скончыла Менскую музычную вучэльню імя М.Глінкі (1978) і Мннскі інстытут культуры (1992). У 1969—71 салістка нар. ансамбля «Лідчанка» раённага Дома культуры, з 1971 Камернаінструментальнага ансамбля Бел. тэлебачання і радыё. Голас Р. (альт) нар. плану, вызначаецца прыгожым тэмбрам, шырокім дыяпазонам. У рэпертуары бел. і рускія нар. песні: «Ох, і сеяла Ульянаўна лянок», «Сон-трава», «Кавалёк», «Мора-мора», «Ой, мілы мой», «Туман ярам», «Зелен гай» і інш. Гастралявала ў краінах СНД, Польшчы, Аўстрыі і інш. Выступае на Бел. тэлебачанні і радыё.*



Ганна Радзько

**ЗАПОЛЛЕ** - вёска Дзітвянскага сельсавету. Побач падмуркі былога фальварку **ЗАПОЛЛЕ,** у якім перад паўстаннем 1831 года жыў **Ігнат Дамейка.**



Ігнат Дамейка

*Ігнат Дамейка, сябар А. Міцкевіча, удзельнік паўстання 1831 года. Пасля паразы паўстання эміграваў у Чылі, дзе стаў нацыянальным героем.*

*Чылійскі ўрад узвёў на яго магіле беламармуровы помнік. У універсітэце ў Сант'яга і ў Палітэхнічным універсітэце ў Ла-Сэрэна, дзе Дамейка пачынаў сваю навуковую дзейнасць, ёсць залы, якія носяць імя нашага земляка. Яго дом у чылійскай сталіцы зберагаецца як культурна-гістарычная каштоўнасць. У гонар Ігната Дамейкі выбіты медаль, названыя два пасёлкі, горны ланцуг на поўначы краіны "Кордыльера Дамейкі", кветка фіялкі "віёла дамейкіяна", мінерал "дамейкіт", салетра "аманітас дамейканус", закамянелы малюск "наўцілус дамейкус"...*

Існуе паданне, што ў Заполле да Ігната Дамейкі прыязджаў Адам Міцкевіч. Пра гэта верш Станіслава Судніка.

*Брычка гайдаецца плаўна*
*Ў новых і модных рэсорах,*
*Тройкаю конікаў слаўных*
*Аж з-пад Навагрудскіх гораў,*

*Вёсак мінаючы хаты,*
*Збожжа мінаючы поле,*
*Едзе Адам да Ігната*
*Ў ціхае наша Заполле.*

*Брама вянкамі абвіта,*
*Квеціцца краскамі лета,*
*Дворня ў навусенькіх світах*
*Шчыра вітае паэта.*

*Пан сам спускаецца з ганка,*
*Вока слязой набрыняла,*
*Будуць сягоння да ранку*
*Згадваць, як колісь бывала.*

*Памяць абудзіць няспешна*
*Вобраз сяброў-філарэтаў,*
*Стане хвілінаю смешна,*
*Стане і сумна за гэтым.*

*Будуць шчаслівыя разам,*
*Быццам юнацтва вярнулі...*
*... Іхнія словы сам-насам*
*Толькі нябёсы пачулі...*

*Сёння нячыстая сіла*
*Знішчыла тое Заполле,*
*Душы вялікіх ліцьвінаў*
*Каб не вярнуліся болей.*

*Толькі стараліся дарма,*
*Памяць людская - не хата,*
*Помняць у Лідзе Адама,*
*Помняць у Лідзе Ігната.*

**КРУПАВА** - цэнтр сельсавету. У Крупаве перад школай устаноўлены памятны знак у гонар Ігната Дамейкі работы Рычарда Грушы. У школе працуе музей Ігната Дамейкі.

**ГУДЫ** - вёска Крупаўскага сельсавету, апошні пункт маршруту. Тут дзейнічае знакаміты калектыў **"Гудскі гармонік"**.

***Народны ансамбль народнай музыкі «Гудскі гармонік» Гудскага сельскага дома культуры.*** *Заснаваны ў 1988 г. У рэпертуары інструментальная музыка і вакальныя творы: мясцовы фальклорны матэрыял, прыпеўкі, баллады, песні і г.д.*

*У 1993 г. калектыў атрымаў званне «народны». «Гудскі гармонік» пастаянны ўдзельнік раённых, абласных і рэспубліканскіх фестываляў «Звіняць цымбалы і гармонік», нацыянальных культур, «Грай, гармонік», фестывалю-кірмашу «Дажынкі» і інш.*

*На IV абласным фестывалі народнай музыкі ансамбль заняў 1-ае месца. Мастацкі кіраўнік А.А.-Колышка.*



"Гудскі гармонік"

Алесь Петрашкевіч

# Смерць або Перамога!

## Гістарычная трагедыя. Час падзей — 1794 г.

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

*Уваходзіць Язэп.*

Што табе?..

**Язэп.** Тэрміновы пакет ад Найвышэйшай рады. *(Перадае пакет і выходзіць.)*

*Ясінскі распячатвае канверт, праглядае паперы і кідае іх на стол.*

**Агінскі.** Што-небудзь непрыемнае?

**Ясінскі.** Не. Звычайныя інтрыгі. Віншуюць з перамогамі, папракаюць за паразы, даюць парады...

*Абдымаюцца. Агінскі выходзіць. Ясінскі сціскае і паднімае кулакі, амаль крык вырываецца з яго грудзей.*

Інтрыганы! Правакатары! Асталопы!.. У такі час!.. У такі адказны момант!.. *(Хапае крэсла і крышыць яго аб стол, потым хапае другое крэсла.)*

*Прыбягае Язэп.*

**Язэп.** Якуб, ты што?!

**Ясінскі** *(кідае крэсла ў кут, адпівае з біклагі, амаль спакойна)*. Касцюшку не падабаецца мой радыкалізм. Ён западозрыў мяне ў сепаратызме і непадпарадкаванні, паверыў плёткам.

**Язэп.** Як жа так можна? Не прайшло і месяца, як ён павысіў цябе з палкоўніка да герерал-лейтэнанта і раптам...

**Ясінскі.** Мяне павысіў, а камандуючым паўстаннем прызначыў Міхала Вяльгорскага!

**Язэп.** Не можа гэтага быць!

**Ясінскі.** Можа! Ён яшчэ скасаваў нашу Найвышэйшую раду і замест яе ўтварыў сваю Цэнтральную дэпутацыю Вялікага Княства Літоўскага.

**Язэп.** Але ж, заўваж, Вялікага Княства, а не проста Літвы.

**Ясінскі.** Такі ж ход, як і з маім павышэннем да генерал-лейтэнанта. Цэнтральная дэпутацыя падпарадкавана Найвышэйшай Нацыянальнай радзе Рэчы Паспалітай. Заместа 28 урадаўцаў у ёй толькі 7 дэпутатаў. *(Шукае на стале патрэбны аркуш, зачытвае з яго.)* Антоні Тызенгаўз, Юзаф Белапятровіч, Валенцій Гарэцкі, Станіслаў Мірскі, Бенядзікт Марыконі, ксёндз прэлат Давід Пілхоўскі, Юзаф Несялоўскі. Усе мае нядобразычліўцы. Я не толькі не прызначаны галоўнакамандуючым, але і не ўведзены ў гэту Цэнтральную дэпутацыю.

**Язэп.** Як жа ўсё гэта разумець?

**Ясінскі.** Як здраду. Ясінскі не трэба Касцюшку. Герой Амерыкі і ганаровы грамадзянін Францыі перапалохаўся рэвалюцыі ў дэкляраваным Вялікім Княстве. Перапалохаўся за Рэч Паспалітую з мяжою за Смаленскам.

**Язэп.** Не гарачыся, Якуб!

**Ясінскі** *(усхвалявана ходзіць па пакоі)*. Садзіся, пісаць будзеш!.. Якая падножка! Якое падступства! Якая недаравальная памылка. Проста ракавое рашэнне! Вяльгорскі — галоўнакамандуючы! Але ж гэта размазня! Баязлівец! Ён жа даўно забыўся, што такое вайна! Які падарунак Кацярыне на загубу нам, ліцьвінам! Пішы! *(Дыктуе.)* Найвышэйшаму начальніку ўзброеных сіл, генерал-лейтэнанту Касцюшку Андрэю Тадэвушу! Начальнік, здрада вакол цябе! Твая вялікая слава закрывае цябе ад інтрыг, а я вымушаны трыважыць таму, што маю два вялікія крыміналы: па-першае, не будучы ад роду князем, заслужыў любоў цэлага краю, па-другое, даказаў, што нават вялікага дзяржаўнага злачынца можна павесіць, як апошняга злодзея. Разумею, з апярэдзіў цябе ў гэтым, але і ты не абыдзешся без гэтакіх суровых мераў, калі хочаш бачыць Айчыну вольнай ад расейскіх акупантаў і сваіх здраднікаў. *(Доўга маўчыць.)* Парві ўсё. Не буду я яму пісаць. Ды і не ён, відаць, ва ўсім гэтым асноўны. А ваяваць да апошняга за Айчыну і яе волю буду! Гэтага мне ніхто не можа забараніць. Усё, што пачуў ад мяне, не гавары пакуль нікому, асабліва князю Міхалу. Няхай ён на бой, а можа, і на смерць, з чыстым сэрцам ідзе. Знойдзем і мы сабе ратны занятак...

*Сцэна зацямняецца.*

### IX

*Ранні ранак. У будане са свежага галля на саломе спіць Касцюшка. Ля ўвахода ў будан вісіць яго салдацкі сурдут і папруга з двума пісталямі. Побач на раскладным зэдліку сядзіць Юльян Нямцэвіч. Піша, прымасціўшы сшытак на каленях.*

*З'яўляецца Агінскі ў салдацкім сурдуце.*

**Агінскі.** Маё шанаванне пану Юльяну.

**Нямцэвіч** *(радасна здзіўлены)*. Князь Клеафас?!

**Агінскі.** Дзякуй, што прызналі. *(Падае руку Нямцэвічу.)*

**Нямцэвіч.** Як Тадэвуш абрадуецца... Зараз пабуджу.

**Агінскі.** Можа няварта трывожыць?..

**Касцюшка** *(вылазіць з будана)*. Як гэта нямарта? Такі госць! *(Абтрасае з сябе салому, адзявае сурдут, аглядае госця.)* Якая прыдатная вопратка, што для князя, што для галоўнакамандуючага, што для жаўнера-касінера. *(Шчыра абдымае Агінскага.)* Я не проста рады, а шчаслівы бачыць князя Клеафаса жывым і здаровым.

**Агінскі.** Я з тымі ж пачуццямі да вас.

**Касцюшка.** Тады сядзем, дзе стаім. *(Спрытна апускаецца на зямлю.)* Тут зручная нізінка, і, калі пачнуць страляць, кулі пралятаць вышэй нашых галоў.

*Амаль гэтак жа спрытна садзіцца і Агінскі. Нямцэвіч займае сваё месца на зэдліку.*

З чым і ад каго, князь? Ці сам па сабе?

**Агінскі.** З пакетам ад галоўнакамандуючага ліцвінскімі войскамі генераллейтэнанта Вяльгорскага. І вельмі рады выпадку пабачыцца. *(Перадае пакет.)*

**Касцюшка** *(перадае пакет Нямцэвічу)*. Чытаць буду, цябе паслухаўшы... Як пачуваюць сябе чальцы распушчанай мной Найвышэйшай рады Вялікага Княства? Што робяць прызначаныя мною дэпутаты?

**Агінскі.** Першыя інтрыгуюць, як і інтрыгавалі, другія пакуль нічога не робяць...

**Касцюшка.** А паўстанне як?

**Агінскі.** Сваім парадкам і з Божай дапамогай.

**Касцюшка.** На вайне кажуць на Бога спадзявайся, а сам глядзі ў абодва. *(Пасля паўзы.)* Ясінскі прыняў Вяльгорскага як галоўнакамандуючага?

**Агінскі.** Прыняў — не тое слова. Як вайсковец, вядома, нібы падпарадкаваўся і вае самааддана, але сам па сабе. Галоўнакамандуючага характарызуе як чалавека, мякка кажучы, да вайсковай справы не здатнага.

**Касцюшка.** А галоўнакамандуючы што?

**Агінскі.** Прыслаў мяне сказаць начальніку паўстання, што не ведае краю, не ведае людзей, а Ясінскі іх ведае і ў вызваленчай, мужыцкай вайне будзе больш карысны, чым ён, Вяльгорскі.

**Касцюшка.** Князь Клеафас таксама лічыць, што начальнік паўстання дапусціў памылку?

**Агінскі.** Так.

**Касцюшка** *(пасля паўзы)*. Можа Вяльгорскі і праўду пра сябе кажа, але ж Ясінскі сапраўды якабінец.

**Агінскі.** У нашых умовах я не лічу гэта вялікай заганай.

**Касцюшка.** Ясінскі яшчэ і сепаратыст. Ты разумееш гэта, князь Клеафас?

**Агінскі.** Я разумею, што Ясінскі ліцьвін, як і мы з вамі, і хоча волі і незалежнасці сваёй Айчыне, можа, не менш, чым мы з вамі. Не пасмеў бы сказаць гэта начальніку паўстання, калі б не ведаў слоў яго, сказаных задоўга да паўстання і зачытаных мне некалі Юзафам Несялоўскім.

**Касцюшка.** І што я там такое запамінальнае сказаў Юзафу Несялоўскаму?

**Агінскі.** Вы сказалі ўсяму ліцьвінскаму люду: «Хіба вы адмаўляецеся ад мяне і лічыце не здольным служыць Айчыне? Кім жа я з'яўляюся? Хіба ж я не ліцьвін, ваш зямляк? Вамі абраны. Каго павінны абараняць, калі не вас і сябе самога? Злосць мяне бярэ: чаму я з Літвы ў Кароне служу, калі ня маеце і трох генералаў. І сойм у Бярэсці наказаў сваім дэпутатам дамагацца, каб амерыканскі генерал мог быць у сваім рангу да войска ліцьвінскага пераведзены».

Дык чаму ж генераллейтэнанту ліцьвіну Якубу Ясінскаму, як і нам з вамі, не паслужыць Вялікаму Княству Літоўскаму, Рускаму і Жамойцкаму?

**Касцюшка.** Я даў прысягу Рэчы Паспалітай, у якую некалі ўвайшло і Вялікае Княства. *(Пасля доўгай паўзы.)* Памяць у князя Клеафаса адметная. Я пра тое сваё пісьмо сенатару Несялоўскаму даволі моцна забыўся... А генерал-лейтэнант Вяльгорскі ведаў, каго да мяне з пакетам пасылаць. Гэта яму, як і табе, князь, робіць гонар. Да Ясінскага і Вяльгорскага мы вернемся, як я яго паперы перачытаю... Як сам ваюеш? Як жывеш, князь Клеафас? Дыпламатыя і вайна — рэчы розныя...

**Агінскі.** Жыву як на вайне, мой генерал. Да скрыпкі, да фартэпіяна ды прыёмаў дыпламатычных я, канешне, лепш прыстасаваны, чым да пісталяў ці шаблі. Але ж, калі трэба, ваюю, як умею. Хаджу адзеламам у рэйды, ганяю маскалюшак за кардонам, бываю на кані, але часцей пад канём. Перад тым, як да вас прабірацца, у Ашмяны да галоўнай стаўкі ўцякаючы прыбег з чарговага рэйду. І генерал Ясінскі і афіцэры, вядома ж, былі рады сустрэць мяне жывым, але дакаралі за маю адвагу, хоць і стараліся суцешыць з-за маіх параз і няўдач.

**Касцюшка** *(вельмі зацікаўлена)*. Калі ласка, князь, пра рэйды падрабязна. Як вайскоўцу, мне гэта цікава, таму што трэба.

**Агінскі.** З апошнім рэйдам, як я казаў ужо, адзін канфуз выйшаў, бо і вораг наш не лыкам шыты. 12 чэрвеня на чале 500-асабовага аддзелу (200 коннікаў маёра Карсака і 300 маіх стральцоў) выйшаў з-пад Вільні і накіраваўся пад Валожын. Разбіў там расейскую залогу, захапіў значныя запасы вайсковай амуніцыі, зброі, харчу ды з ходу рушыў на Івянец. Там абвясціў свой зварот да жыхароў Менскага ваяводства. Спасла́ўся на тое, што звяртаюся ад імя «мужыцкага» генерала Ясінскага, заклікаў далучыцца да паўстанцаў, каб вярнуць Бацькаўшчыне волю і незалежнасць ад акупантаў. Дайшла, відаць, мая адозва і да менскага генерал-губернатара Тутальміна. Рапнін і кінуў на нас корпус Кнорынга і полк генерала Зубава. Прыхапілі яны мой аддзел пад Вішневам ды так, што і хваліцца нечым. У іх было 5 тысяч жаўнераў і 16 гармат.

**Касцюшка.** Перакажы, як была справа.

**Агінскі.** Хутчэй за ўсё падпільнавалі яны наш аддзел з засады. Калі я загадаў усім вазам спыніцца пасля спуску з гары і шукаў па мапе дарогу, значны аддзел казакоў разам з палком Зубава напаў нечакана. Калі я залішне неразважліва высунуўся наперад, кулі прашылі мой капялюш. Ураатаваў афіцэр, які ўхапіў каня за цуглі і прымусіў мяне паварнуць назад. У баі я страціў увесь багаж, захоплены ў Івянцы, маю касу з 700 залатымі дукатамі і ўсе мае паперы. 12 чалавек з кавалерыі, каля 20 добраахвотнікаў, 25 стральцоў і ўсе людзі маёй аховы і прыслугі былі забіты. Мне ўдалося вывесці з-пад удару толькі каля 150 чалавек. Стральцы ж адступілі ў лясы, а непрыяцельская калона ўвесь час ішла па баках, каб акружыць. А потым некалькі гадзін даводзілася адбівацца ад патрулёў калоны Цыцыянава. Ну, а з надыходам ночы, удалося адарвацца ад іх і злучыцца з авангардам Ясінскага ў Крэве.

**Касцюшка.** Гэта быў першы рэйд?

**Агінскі.** Чаму першы? І ў мяне не першы і палкоўнік Гарадзенскі хадзіў з Вільні на Паставы, а шляхціц Ян Занковіч на Меншчыну, Ясінскі браў Ашмяны і калясіў па павеце з дзвюма тысячамі жаўнераў і тысячай касінераў. Ясінскі кажа, каб не гэтыя рэйды, Рапнін даўно быў бы ў Вільні.

**Касцюшка.** Рэйды арганізоўваў штаб галоўнакамандуючага Вяльгорскага?

**Агінскі.** Пра што вы кажаце. Клянуся гонарам, яго штаб-зборышча марнатраўцаў, якія весяляцца, гуляюць у карты, аб'ядаюць галадаючых паўстанцаў. З такім штабам і камандуючым пра перамогу і марыць не даводзіцца! За ўсе непрыемнасці ў апошнім рэйдзе мне ва ўзнагароду ад касінераў толькі іх песня дасталася. Не ведаю, якому кампазітару яшчэ так пашэнціла. *(Напявае.)*

*Ці ўжо мы ўсе сабакі?*
*Гаспадары — не бурлакі*

*Нямцэвіч запісвае словы песні.*

*За што маем крыўду знаці?*
*За што церпіць наша маці?*
*Падавайма оўцы, волы,*
*Жыта з свірна ды ўсе долы.*
*Няхай ксёндз нас пасвянцае,*
*Няхай Бог нам памагае!*
*Бывай здарова, Грыпіна!*
*Параска! Мая дзяўчына,*
*Да Касцюшкі ўсе прыстаем.*
*Калі назад павернемся,*
*Тады з вамі ўсцішнемся.*
*Вольнасць для нас*
*паны даюць*
*І за людзей нас прызнаюць.*

**Касцюшка** *(у захапленні)*. Цудоўны марш!

**Агінскі.** Між іншым кажуць, што словы Якуба Ясінскага. Такі вось сепаратыст і якабінец!

**Нямцэвіч.** Даносчыкі з Вільні аб'елі вушы. І кожны чарніў Ясінскага.

**Касцюшка.** Яны мне не толькі нацяроўжылі, а можа, і ў зман звялі. Але скажу шчыра, радыкалізм Ясінскага, яго шыбеніцы ўнеслі раскол у паўстанцкі рух.

**Агінскі.** Дакладней будзе сказаць адбыўся адкол, а не раскол. Ад ліцьвінаў паўстанцаў адкалоліся здраднікі і запраданцы Таргавічанскай канфедэрацыі.

**Касцюшка.** Але ж гэта не значыць, што іх трэба было ўсіх перавешаць.

**Агінскі.** А ўсіх ніхто і не вешаў. Сярод людзей багатых і ўплывовых шмат здрадлівых. Яны хочуць сядзець на двух крэслах адразу — на польскім і расейскім. Яны са страху перад шыбеніцай і паднялі гвалт. Шыбеніцамі палохалі здраднікаў і адшчапенцаў ад паўстання, але масавых павешанняў не было. Гэта мне добра вядома!

**Касцюшка.** Я аб'явіў прыгонным волю, але не абяцаў дармавой зямлі.





Алесь Петрашкевіч

# Смерць або Перамога!

## Гістарычная трагедыя. Час падзей — 1794 г.

*Агінскі.* А каб паабяцалі, мужыкі б самі ў паўстанцкія аддзелы прасіліся. Адзінай шыбеніцай супраць здраднікаў Ясінскі толькі прадэманстраваў свой парыў да сацыяльнай роўнасці і менавіта гэтым актам заявіў свой радыкалізм раней, чым гэта нехта наважваўся зрабіць у Кароне.

*Касцюшка.* Перад пагрозай стыхіі шляхецкай міжусобіцы віленская Найвышэйшая рада адмовілася ад праследу здраднікаў-таргавічан, каб не рабіцца адказнай за гібель знаці і парушэнне прэрагатыў шляхецтва ў цэлым. Дык я ж, а не нехта іншы, ліквідаваў тую раду, замяніўшы яе Цэнтральнай дэпутацыяй. За што ж ты мяне папракаеш, шаноўны князь?!

*Агінскі.* Замена Найвышэйшай рады Вялікага Княства, чальцы якой прычыніліся да вызвалення Вільні, на Цэнтральную дэпутацыю з сямі не самых рэвалюцыйных дзеячаў успрынята ліцьвінамі як знак таго, што няма ў іх больш надзеі ні на вольнасць, ні на непадлегласць...

*Касцюшка.* Князь Клеафас, каб не перасварыцца, лепш спынім дыскусію, пакуль расейцы ў атаку не пайшлі. А Юльян распарадзіцца, каб нам падалі перакусіць...

*Нямцэвіч выходзіць.*

*Агінскі.* Вы мне даруйце. Я ўклаў у рэвалюцыю ўсё, што меў, адмовіўся ад прысягі царыцы Кацярыне, пазбавіўся ўсіх зямель і маёнткаў, замест фрака дыпламата адзеў салдацкі сурдут...

*Касцюшка.* Таму і не хачу сварыцца з прызнаным кампазітарам, выдатным дыпламатам, вядомым скарбнікам і мужным воінам. А з Якубам Ясінскім мы сустрэнемся і паразумеемся. Настаюць часы цяжкія і вельмі адказныя. Перад гісторыяй адказныя, дарагі князь Клеафас.

*Сцэна зацямняецца.*

### X

*Да Тутальміна ўваходзіць Рапнін. Падае руку.*

*Рапнін.* Что ты такой настороженный? Хорошие новости?

*Тутальмін (з палёгкай).* И слава Богу, Николай Васильевич. И слава Богу.

*Рапнін.* Ясинский побит Бенигсеном под Ошмянами. До этого Агинский разгромлен под Вишневом. Грабовскому тоже досталось. Из Постав выбит трехтысячный отряд Зиновича, уничтожено около 300 человек.

*Тутальмін.* Прекрасно! Поздравляю!..

*Рапнін.* Но Ясинский снова ушел в рейд под Солы. Все гоняется за корпусом Зубова. Кноррингу приказано направить генерал-майора Ленского с двумя тысячами штыков против бригады восставших Юзефа Вoврецкого в район *(паказвае на карце-схеме)* Новоселки—Боруны— Копцевичи. Сам Кнорринг уже занял Ошмяны и послал эскадрон драгун под Лиду. Будем надеяться, что ему удастся разбить или хотя бы рассеять ополчение генерала Яна Якуба Мейена — их там около полутора тысяч, если при этом Зубов расколотит Ясинского под Солами и достигнет Медников, перед нами откроется прямой путь на Вильно. Штурм оной начнем сразу же, как только от Бреста к Слониму подойдет 14-тысячный корпус генерала Отто Дерфельдинга.

*Тутальмін.* Только бы дал Господь! *(Тройчы хрысціцца.)*

*Рапнін (з іроніяй).* При твоих молитвах даст пренепременно... особливо, если бригада Ивана Германа управится с браславскими бунтовщиками и выйдет напрямую к Вильно... Интересно, чем же заняты теперь твои гарнизонные крысы?

*Тутальмін.* Уборкой урожая они заняты.

*Рапнін (здзіўлена).* Солдаты? уборкой урожая?

*Тутальмін (вінавата).* Больше некому, Николай Васильевич...

*Рапнін.* Значит, заготовка провианта и фуража провалена начисто?!

*Тутальмін.* Не совсем начисто, но провалена.

*Рапнін.* И деньги взял, и дело провалил. Я тебя тоже поздравляю, господин генерал-губернатор.

*Тутальмін.* Сам же видишь, Николай Васильевич, земля вокруг на пустыню похожа стала. Мужики вырваны из деревень в косинеры, а обыватели городов и местечек по лесам прячутся. И твои и мои солдаты грабят всех подряд. А где места от бунтовщиков тихие, хлеба убирают и молотят мужики... с жандармами.

*Рапнін.* А что моим солдатам делать остается, как не грабить... Да и у меня иного выхода нет, как только донести на тебя царице. Деньги то на пропитание войск не мои, а царские...

*Тутальмін.* Бог с тобой, Николай Васильевич. Царице я уже сам отписал о всех трудностях наших и с провиантом, и с фуражом, и с амуницией. Чай, подбросит еще ассигнациями...

*Рапнін.* Ты мне еще расписку напишешь, что все деньги серебром и ассигнациями на закупку провианта израсходовал, но половину мне вернешь и желательно серебром.

*Тутальмін.* Видит Бог, половину верну...

*Рапнін.* Не упоминай, грешник, всуе имя Господне...

*Сцэна зацямняецца.*

### XI

*Вартоўня. У форме генерал-лейтэнанта і пры зброі Якуб Ясінскі ў задуменні ходзіць па пакоі, спыняецца ля акна, глядзіць на Вільню.*

*Уваходзіць Агінскі.*

*Агінскі (бадзёра).* Дазвольце, пан генерал-лейтэнант...

*Ясінскі (з сумам).* Як жа я вас чакаю, дарагі князь Міхал. *(Абдымаюцца.)*

*Агінскі.* Ледзьве прабіўся праз ахову. Пры Язэпе лягчэй было князю да генерала...

*Ясінскі.* Няма больш майго Язэпа...

*Агінскі.* Як няма?!

*Ясінскі.* Пад Саламі склаў галаву мой брацец.

*Агінскі.* Маё табе спачуванне, дружа Якуб. Як гэта здарылася?

*Ясінскі.* Каб замкнуць акружэнне Вільні з поўдня, Кнорынг выправіў эскадроны драгунаў і егераў Зубава на Ліду. Да гэтага яны стаялі ў Солах. Я рашыў скарыстацца гэтым, каб разбіць яго трохтысячны аддзел. Галоўнакамандуючы Вяльгорскі даў мне каля 5 тысяч зборнага войска. Сеча была страшэнная. Паўстанцы смела і рашуча атакавалі расейцаў і прымусілі адступіць, але тыя паспелі падпаліць вёску. Гэта прыпыніла атаку, а вораг кінуў у наступ свежыя сілы. У перахопленым данясенні Кнорынгу былі такія словы: «Литвины отчаянно дрались и безоружными бросались на егерей не щадя живота своего, не хотели живыми сдаваться и умирали на штыках». Сярод іх быў і Язэп... Страціў я ў гэтым баі больш за 200 вояў. Вяльгорскі мяне падставіў, а касцюшкаўская Цэнтральная дэпутацыя абвінаваціла ў нездольнасці ваяваць. Незадаволены і абывацелі Вільні. Перад штурмам горада я іх разумею. Сама ж Дэпутацыя бяздзейнічае, разарвала сувязь з польскім цэнтрам, а сама не ведае, што рабіць і да чаго імкнуцца. Дарэчы, што там у Варшаве, у Касцюшкі?

*Агінскі.* Да Варшавы падышлі і пруская, і расейская арміі. Што на гэты час у Касцюшкі не ведаю. Прасіў перадаць, што ў хуткім часе пакліча цябе ў Гародню. Ён вельмі высока ацаніў нашы рэйды за кардон. Многа распытваў пра цябе асабіста. Здаецца мне, што ён зразумеў сваю несправядлівасць...

*Ясінскі (вельмі запальчыва).* Позна зразумеў! І я да яго не паеду. Наогул кіну Польшчу. Пайду ў Парыж... пешшу! У Польшчы мне няма чаго рабіць! У Польшчы адны здраднікі, слабадушныя баязліўцы...

*Агінскі.* Ну, дружа, гэта не тычыцца ўласна Касцюшкі.

*Ясінскі (спакойна).* Можа, і не тычыцца. Але калі я непатрэбны і мне не давяраюць, я іду ў адстаўку. Пераканаўся і ў жаданнях віленчукоў сваёй адстаўкі. Праз газету звярнуся да люду простага *(бярэ са стала аркуш)* з такімі словамі (чытае): «Шаноўныя грамадзяне! Калі такое ваша жаданне, воля ваша ёсць маім законам, шкадую, што, нягледзячы на мае намаганні, да сэрца вам не прыйшоўся, але з-за гэтага не меней вас кахаю і не менш ахвотна, чым мог, служыць вам буду». *(Кідае аркуш на стол.)*

*Агінскі.* Дружа мой, Якуб! Вядома будзеш, як і ў прылюднай клятве сваёй сказаў. Будзеш, «пакуль зямля наша поўнасцю ад іншаземнага іга не вызвалена будзе». Такі ты ўжо ёсць Якуб Ясінскі. Мяне ж з выправай накіруй на Браслаўшчыну і Дынабург, каб адцягнуць на сябе расейскія войскі ад Вільні. Так загадвае і просіць Касцюшка.

*Ясінскі.* Вядома ж накірую і з паўтысячы жаўнераў знайду. А ў дапамогу Стэфана Грабоўскага дам з аддзелам тысячы на дзве. Надзвычай баявы і мужны палкоўнік. Цяпер ён вяртаецца з рэйду. Прайшоў ужо па тылах Іўе, Івянец, Ракаў, Койданава, Самахвалавічы, Пухавічы, Бабруйск, Свіслач, павярнуў на Глуск.

*Даносяцца гарматныя стрэлы. Ясінскі і Агінскі насцярожваюцца.*

*Заслона апускаецца.*

### XII

*Перад заслонай ў падзорную трубу Касцюшка аглядае пазіцыю. Пры ім Ясінскі і Нямцэвіч.*

*Ясінскі (сам сабе з сумам).* Апошняя пазіцыя... Гародня апошняя пазіцыя... начальнік!

*Касцюшка.* Таму начальнік і тут, што яна апошняя перад Варшавай.

*Ясінскі.* Гэтага можна было пазбегнуць, павесіўшы не аднаго Касакоўскага, а хоць бы 100 халуёў царыцы, у тым ліку і караля Станіслава Аўгуста.

*Касцюшка (аддае падзорную трубу Нямцэвічу).* Гэта спрэчна, Якуб.

*Ясінскі.* Калі б Якуб меў тваю ўладу ў сваім краі, павесіў бы 100 і пазбавіў ад іх 6 мільёнаў. А спрачацца цяпер позна, бо стала бясспрэчным, што ад нашага Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага застаўся толькі гэты лапік зямлі пад Гародняй. І радцы нашай Найвышэйшай рады і чальцы тваёй Цэнтральнай дэпутацыі пагаджаліся лепш на пагібель дзяржавы, чымсьці даць волю і зямлю чэрні, як яны людзей называюць. Французы ведалі, што рабілі, таму маюць і Рэспубліку, і Канстытуцыю, і Будучыню. А мы лапік пад Гародняй. *(Безнадзейна махае рукой.)*

*Касцюшка.* Горш ці лепш, але мы з табой зрабілі ўсё, што змаглі. Калі ўтрымаем Польшчу, вернем і Вялікае Княства.

*Ясінскі.* Каму вернем?..

*Касцюшка.* Хутчэй за ўсё гэта давядзецца вырашаць ужо не нам.

*Ясінскі.* Я таксама не веру ў нашу перамогу.

*Касцюшка.* Я веру ў рыцарскую прыстойнасць. Здаецца, у нас была адна і тая ж рыцарская школа ў Варшаве...

*Ясінскі.* Я выканаю свой абавязак як належыць...

*Касцюшка.* А я свой яшчэ і перад табой асабіста, слаўны воін.

*Нямцэвіч перадае Касцюшку залаты пярсцёнак.*

Прымі, генерал-лейтэнант Якуб Ясінскі, заслужаную ўзнагароду ад начальніка паўстання. На ёй вартыя цябе словы: «Айчына свайму абаронцу». *(Перадае пярсцёнак, паціскае руку.)*

*Ясінскі (адзявае пярсцёнак).* Служу Вялікаму Княству!

*Нямцэвіч паціскае руку Ясінскаму.*

Я Бацькаўшчыны не перажыву. Калі лёс не дасць мне загінуць у бітве, звярнуся да гэтых прыяцеляў. *(Кладзе рукі на пістолі.)*

*Касцюшка.* Колькі штыкоў і шабель у Гарадзенскай дывізіі.

*Ясінскі.* Тысячы чатыры.

*Касцюшка.* Будзеш абараняць левы фланг Варшаўскага прадмесця — Прагу.

*Ясінскі.* Ёсць абараняць прадмесце Прагу.

*Касцюшка.* Зараз бы нам вашы рэйды за плячыма расейскіх войскаў...

*Ясінскі.* Перадапошнім і найбольш удалым быў рэйд палкоўніка Стэфана Грабоўскага. Ён прайшоў амаль усю Меншчыну, але быў блакаваны пад Глускам Цыцыянавым і Барклаем дэ Толі, разгромлены і паланёны. Здзейсніў свой апошні рэйд на Браслаўшчыну і пад Дынабург і князь Агінскі, калі Вільня была ўжо захоплена маскалямі.

*Касцюшка.* Дзе князь зараз?

*Ясінскі.* Меўся вывезці сям'ю з-пад Вільні ў Варшаву.

*Касцюшка.* Няхай яму шчасціць. Рэдкай прыстойнасці, годнасці і мужнасці чалавек.

*Сцэна зацямняецца.*
*Заслона падымаецца.*

### XIII

*Кацярына II у цудоўным настроі і багатым уборы прыхарошваецца каля люстра. На залатым падносе прыгатавана шампанскае і бакалы. Тут жа побач ляжыць і залатая шпага.*

*Уваходзіць Платон Зубаў.*

*Зубаў (вельмі ўрачыста).* Ваше императорское величество, главнокомандующий Репнин с рапуртом!

Кацярына II. Зови героя.

*Зубаў выходзіць. Дзверы расчыняюцца. Чаканным крокам у парадный форме ўваходзіць Рапнін. Каля дзвярэй затрымліваюцца Безбародка і Зубаў.*

*Рапнін.* Ваше императорское величество, высочайшее повеление и долг воинов Российской империи перед престолом исполнены с честью! Виктория! Вильно и Варшава пали! Мятеж подавлен! Враг разбит и рассеян! Предводитель Костюшко пленен, Ясинский умерщвлен суворовцами на баррикадах Варшавы. В боях особо отличились брат блистательного генерала Платона Зубова не менее блистательный генерал Валерий Зубов, а также генералы Бенигсен, Кнорринг, Цицианов, Дерфельдин, Барклай де Толли и многие высшие офицеры. Варшаву брал генерал Суворов со своими чудо-богатырями. Полтысячи варшавян вырезано и вырублено, более четырнадцати тысяч вооруженных перебито и переколото штыками, более двух тысяч утоплено в Висле. Пленных живыми Суворов не брал.

*Кацярына II.* Превосходно!

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Камяні ў жыцці беларуса

## (Пазнавальная гутарка з Алегам Трусавым)

**Карэспандэнт.**

***- Беларусі пашанцавала на камяні. Вялікія і зусім маленькія, рознай формы і колеру, раскіданыя яны па нашай зямлі ў вялікай колькасці, асабліва на поўначы і ў цэнтры Беларусі. Цікава, а як ставіліся нашыя людзі раней да камянёў, і якую ролю яны адыгрывалі ў іх жыцці?***

**А. Трусаў.**

- Беларус вельмі часта сустракаўся з камянямі ў сваім жыцці. Асабліва калі араў зямлю ці нешта будаваў.

У першым выпадку гэта яго вельмі засмучала, і ён мусіў рукамі збіраць камяні са сваіх палеткаў, а ў другім радавала, бо камень выдатны, і - самае галоўнае - бясплатны матэрыял для будаўніцтва.

**Карэспандэнт.**

***- Калі нашыя продкі пачалі каменнае будаўніцтва?***

**А. Трусаў.**

- Спроба выкарыстоўваць камяні для падмуркаў сваіх жытлаў вядома яшчэ з каменнага веку, але ўзводзіць каменныя будынкі нашыя продкі пачалі з XI стагоддзя. З палявых камянёў зроблены падмуркі славутай Полацкай Сафіі. Вялікія валуны ўтрымлівае таксама і цагляная муроўка храма.

**Карэспандэнт.**

***- А калі пачалі будаваць сцены з каменных блокаў, абчасанага мяккага каменю?***

**А. Трусаў.**

- Даволі рана, у канцы XI - XII ст. Так, з каменных плітак, якія па памерах нагадваюць цагліны, хацелі збудаваць каменны храм у Менску. З прыгожых прамавугольных каменных блокаў, з мясцовага вапняку, складзены муры Віцебскай Дабравешчанскай царквы XII ст.

Асаблівы росквіт каменнага будаўніцтва прыпадае на XIV стагоддзе, калі з валуноў узводзілі вежы і сцены беларускіх замкаў. З тых часоў захаваўся адмысловы праклён: "Каб ты ўсё жыццё на Крэўскі замак каменне цягаў?"

**Карэспандэнт.**

***- А калі на Беларусі з'явіўся каменны брук?***

**А. Трусаў.**

- Звычай выкладаць з камянёў плошчы гарадоў і мястэчак, а потым і вуліцы з'явіўся ў XVI ст. Спачатку гэта былі гандлёвыя плошчы, асабліва перад ратушай, а потым вуліцы і нават дарогі. Існавала спецыяльнае мыта. Кожны гандляр на кожным сваім возе павінен быў прывезці камень і пакласці яго перад гарадской брамай.

У XIX - пачатку XX ст. існавала спецыяльная брусчатка - фрагменты вуліц ці плошчаў выкладзеныя не булыжнікам, а спецыяльным абчасаным каменем.

**Карэспандэнт.**

***- Як звязаны камень з пахавальным абрадам старажытных насельнікаў Беларусі?***

**А. Трусаў.**

- У балтыйскіх плямёнаў, што некалі жылі на заходняй Беларусі, быў звычай, асабліва ў яцвягаў, над памерлым выкладаць курган з камянёў. У археалогіі ёсць такі тэрмін "каменная магіла", калі надмагільны курган абкладаўся каменнем. На тэрыторыі некаторых раёнаў Гарадзеншчыны гэты звычай існаваў да XVII ст. Беларусы, асабліва заможныя, пачалі выкарыстоўваць камяні ў якасці надмагілляў дзесьці з XIV - XV ст. ст. Даволі часта на такіх камянях высякалі крыжы. А пазней і цэлыя надпісы.

**Карэспандэнт.**

***- Да якіх часоў адносяцца камяні з надпісамі, якія часта называюць "Барысавы камяні"?***

**А. Трусаў.**

- Выдатнымі помнікамі эпіграфікі 12 ст. - з'яўляюцца камяні, што знаходзіліся ў рэчышчы Заходняй Дзвіны. "Господі помозі рабу своему Борісу". Гэткі надпіс - заклінанне высечана на іх па загаду Полацкага князя Барыса. Адзін з сямі гэтых камянёў называўся Барыс - Хлебнік. Як казалі, ён "выходзіў з вады" пад свята Барыса і Глеба - 24 ліпеня. У гэтаю пару звычайна пачыналася жніво, што і засведчана ў прымаўцы: "На Глеба і Барыса за хлеб бярыся". Зараз Барыс - Хлебнік спачывае ля знакамітага Сафійскага сабора ў Полацку.

У аршанскім раёне доўга захоўваўся знакаміты на ўсю Еўропу Рагвалодаў камень з надпісам *"В лето 6679/1171/месяца мая в 7 день доспен крест сей. Господі помозі рабу своему Васілію в крещеніі Рогволоду сыну Борісову"*. Гэты надпіс-маленне зрабіў князь пасля галоднай зімы ў спадзяванні на будучы добры ўраджай. Лягенды апавядаюць, што камень стаяў на чатырох нагах, быў падобны да звера, меў каменную галаву, з якой тамтэйшы млынар зладзіў жорны. Ды камень не толькі сам змалоўся ў пясок, але і перамалоў увесь набытак і ўсё сямейства млынара.

Некаторыя даследчыкі называлі гэты помнік прыроды дальменам -найстаражытным збудаваннем накшталт велізарнай каменнай скрыні, накрытай пляскатай плітой, якая мела свой унутраны аб'ём. Згадваюць, што пад Рагвалодавым каменем часта хаваліся ад дажджу мясцовыя сяляне. У 1805 г. над ім была збудавана капліца, у якую сцякаліся вернікі з многіх ваколіц.

**Карэспандэнт.**

***- А як і калі з'явіліся валуны на нашай тэрыторыі?***

**А. Трусаў.**

- З'яўленне валуноў на нашай зямлі доўгі час не маглі растлумачыць і вучоныя. Адно было зразумела - камяні не мясцовыя. Склад парод паказваў, што ў асноўным яны ўзніклі ва ўмовах высокіх тэмператур і ціску на значнай глыбіні або пры вывяржэнні вулкана. У наш час такія пароды на тэрыторыі Беларусі амаль не выходзяць на паверхню. Іх можна сустрэць толькі ў гарах ці пад тоўстым напластаваннем больш маладых утварэнняў. Як жа трапілі гэтыя камяні на Беларусь?

Высветлілася таксама, што валуны распаўсюджаны толькі на поўначы Еўропы і Паўночнай Амерыкі. У гэтую зону цалкам трапляе і тэрыторыя Беларусі. У 70-я гады 19 ст. пасля даследавання раёнаў сучаснага абледзянення, вучоныя розных краін амаль адначасна прыйшлі да высновы, што вінаватыя ў з'яўленні дзіўных камянёў старажытныя ледавікі.

**Карэспандэнт.**

***- Цікава, а як называліся навукоўцамі прыхільнікі гэтай тэорыі?***

**А. Трусаў.**

- Прыхільнікаў гэтай тэорыі сталі называць гляцыялістамі (ад лац. гляцыс — лёд), а саму тэорыю — ледавіковай.

Было канчаткова высветлена, што валуны ў наш край былі занесены ледавіком. Справа ў тым, што каля 1 мільёна год таму ў гарах Скандынаўскага паўвострава ўтварыўся гіганцкі ледавіковы шчыт. Таўшчыня лёду тут дасягала 3-4 км. Ледавіковыя языкі, што спаўзалі з гор, відаць, паглыбілі катлавіну Балтыйскага мора і рушылі на раўніны Паўночнай Еўропы. Пасля пацяплела. Ледавіковае покрыва пачало раставаць, і яго межы паступова перамяшчаліся на поўнач. На думку спецыялістаў, на працягу апошняга мільёна гадоў пяць разоў суровыя ледавіковыя эпохі змяняліся цёплымі міжледавіковымі, клімат якіх амаль не адрозніваўся ад сучаснага. Усе ледавікі даходзілі да тэрыторыі Беларусі. Вось чаму на нашай зямлі так багата ледавіковых утварэнняў, якія ўзніклі ў прыканцавой частцы ледавіка, - высокія грады, узгоркі, пясчаныя раўніны, намытыя талымі ледавіковымі водамі.

Ледавікі, што рухаліся на нашу зямлю, на сваім шляху зрывалі велічэзныя абломкі скалаў са Скандынаўскага паўвострава, неслі з сабой камяні, жвір, пясок і гліну. Абломкі крышыліся, сціраліся, абточваліся, пакрываліся глыбокімі барознамі і драпінамі. Складаная была дарога ледавіка: на яго шляху сустракаліся глыбокія яры, вялікія ўзвышшы, выступы магутных асадкавых парод Усходне-Еўрапейскай раўніны. Калі лёд растаў, на месцы пашырэння ледавіка застаўся прынесены ім матэрыял. Так утварыліся добра знаёмыя нам узгоркі, грады, раўніны. Пазней гэтыя адклады шмат дзе трапілі пад уздзеянне водных плыняў і вятроў. Сярод ледавіковых "трафеяў" значнае месца належыць валунам, якімі шчодра ўсеяны вялікія прасторы.



*"Барысаў камень" каля полацкага Сафійскага сабора.*

**Карэспандэнт.**

***- А як называюць ва-луны навукоўцы з дапамогай латыні? Я чуў, што яны часам маюць назву "эратычныя" прышэльцы.***

**А. Трусаў.**

- Так, валуны гэта іншаземныя прышэльцы, за што іх назвалі "эратычнымі", вандроўнымі (ад лацінскага *эратыкус* - вандроўны). На беларускай зямлі яны з'явіліся адносна нядаўна. Радзімай шмат якіх камянёў былі Швецыя. Фінляндыя дно і астравы Балтыйскага мора, паўночна-заходнія раёны былога СССР. Высветлілася таксама, што лёд рухаўся не суцэльнай масай, а некалькімі плынямі, кожная з якіх несла свой набор валуноў. У часе розных абледзяненняў кірункі ледавіковых промняў некалькі адрозніваліся. Нават у межах адной ледавіковай эпохі адбываліся значныя змены кірунку ледзяных струменяў. Вось якім чынам на Беларусь трапілі тыя камяні, якія шчодра раскіданы па нашай зямлі, асабліва ў яе паўночнай частцы.

**Карэспандэнт.**

***- Тое, што Вы сказалі, гэта наша сённяшняе веданне валуноў. А як тлумачылі з'яўленне камянёў на Беларусі нашыя продкі?***

**А. Трусаў.**

- Валуны, якія часта трапляюць на вочы жыхароў Беларусі, склалі адну з вялікіх таямніц прыроды. Валуны - гэта тая вонкавая простая з'ява, на разгадванне якой спатрэбілася некалькі стагоддзяў.

Даўней беларусы склалі шматлікія легенды, якія тлумачылі паходжанне валуноў. Паводле адной з іх каменне наўмысна раскідаў чорт, каб дапячы Богу. Паводле іншай легенды гэтыя камлыгі нашпурлялі волаты ў часе палявання, будаўніцтва ці войнаў. А яшчэ людзі верылі, што вялікія камяні, нібы бульба, выраслі з маленькіх, або вылезлі з зямлі, як грыбы. Іншы раз можна было пачуць, што валуны зваліліся з неба.

**Карэспандэнт.**

***- Такім чынам, мы пазнаёміліся з гісторыяй беларускіх камянёў. Яны вартыя таго, каб іх вывучаць, захоўваць, паказваць айчынным і замежным турыстам. Гэта і прывяло да стварэння ў Менску ўнікальнага музея камянёў.***

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 07. 2006 г. у 10.00. Замова № 1535.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1290 руб., 3 мес.- 3870 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.